

**Барысаўская піянінная фабрыка. Работніца аддзелачнага цэха камсамолка Ліда Чаховіч устаўляе механізм піяніна.**

Фото В. Вяхоткі і Ф. Чаховіча.

На першай старонцы вокладкі: **Турысты на прывале.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Новыя мадэлі плаццяў, якія дэманструюцца ў Доме мадэляў Міністэрства лёгкай прамысловасці БССР.**

Фото А. Дзітлава.



## ПА ВЯЛІКАМУ ПЛАНУ

У новай пяцігодцы воблік Беларусі яшчэ больш зменіцца. Згодна вялікага плана, ухваленага XX з'ездам КПСС, у нашай рэспубліцы ўзводзяцца новыя індустрыяльныя прадпрыемствы.

Сярод новабудоўляў Мінска — завод запасных частак да трактароў. Такое прадпрыемства вельмі патрэбнае. У нас цяпер многа машын, а будзе яшчэ больш. Мінскі трактарны завод у новай пяцігодцы павінен выпускаць трактароў у 2,7 раза больш, чым у 1955 годзе.

Мінскія будаўнікі паспяхова выконваюць заданне партыі. За кароткі час іх нястомнымі рукамі побач з пасёлкам трактаразаводцаў узняты карпусы новага завода, які ў поўнай патрэбе забяспечыць МТС і рамонтныя прадпрыемствы запаснымі часткамі.

Напярэдадні XX з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза завод уступіў у строй дзеючых: пачалі працаваць два цэхі — інструментальны і механічны, яны абсталяваны навейшай тэхнікай. Змантыраваны і наладжаны першыя паточныя лініі.

У гістарычныя дні работы з'езда партыі на заводзе пачаўся серыйны выпуск асобных запасных частак да трактароў і аўтамашын. Натхнёныя велічнымі перспектывамі камуністычнага будаўніцтва, працаўнікі завода абавязаліся ўжо ў гэтым годзе перавыканаць планавае заданне па выпуску прадукцыі.

На здымку: першая дзеючая паточная лінія ў механічным цэху. Злева направа: камсамольцы тэхнолаг Я. Ізраілевіч, зубафрэзероўшчык Г. Фурс і кантралёр І. Кановіч праглядаюць дэталі перад тэрмаапрацоўкай.

Фота С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

№ 4 (37).

Красавік.

1956.



# З УСПАМІНАЎ ПРА ЛЕНІНА

Г. М. КРЖЫЖАНОЎСКІ

Пры жыцці Владзіміра Ільіча ўсім нам, хто меў шчасце стаяць да яго блізка, бадай, самай прывабнай тэмай было-б гаварыць іменна пра яго, таму што мы, якія жылі і працавалі побач з ім, вядома, раней за другіх павінны былі зразумець і адчуць, што за чалавек у яго асобе працуе з намі. Але вялікая сціпласць, якая была ўласціва гэтаму чалавеку, не дазваляла нам у той час гаварыць пра яго.

...Пачнем хоць-бы з простай, сціплай знешнасці Владзіміра Ільіча. Яго невысокая фігура ў звычайнай шапцы лёгка магла згубіцца, не кідаючыся ў вочы, у кожным фабрычным квартале. Прыемны смуглы твар з некалькі ўсходнім адценнем — вось амаль усё, што можна сказаць пра яго знешні воблік. З такой-жа лёгкасцю, апрануўшыся ў якую-небудзь світку, Владзімір Ільіч мог згубіцца ва ўсякім натоўпе волжскіх сялян,—было ў яго аблічвы іменна нешта, што нібы ішло непасрэдна ад гэтых народных нізоў, нібы роднае ім па крыві. Але варта было ўглядзецца ў вочы Владзіміра Ільіча, у гэтыя незвычайныя, праніклівыя, поўныя ўнутранай сілы і энергіі цёмна-цёмнакарыя вочы, як вы пачыналі ўжо адчуваць, што перад вамі чалавек зусім не звычайнага тыпу. Большасць партрэтаў Владзіміра Ільіча не можа перадаць таго ўражання асобай таленавітасці, якое хутка ішло на змену першым уражанням ад яго простай знешнасці, як толькі вы пачыналі некалькі бліжэй углядацца ў яго воблік. Нездарма адзін вядомы французскі скульптар, які, напэўна, не прадчуваў далейшай гістарычнай дзейнасці Владзіміра Ільіча, тым не менш быў так уражаны і захоплены цудоўнымі абрысамі яго ілба, што літаральна зводзіў яго ў Парыжы сваімі прапановамі выляпіць яго галаву, валодаўшую, на думку гэтага мастака, асаблівай духоўнай прыгажосцю. Ён знаходзіў велізарнае падабенства ў абрысах ілба Владзіміра Ільіча са скульптурамі, якія паказвалі вялікага мысліцеля старажытнасці Сакрата.

Аднак з куды большай магутнасцю выяўлялася духоўная сутнасць Владзіміра Ільіча не ў яго знешнасці, а ў працэсе адносін з людзьмі. Неаднаразова бываючы з Владзімірам Ільічом у такіх калектывах, якія не мелі магчымасці ведаць аб ім раней, я заўсёды наперад прадбачыў тое несумненнае, што павінна было здарыцца. Гэта несумненнае заключалася ў тым, што, дзе-б ні паяўляўся Владзімір Ільіч і ў якім-бы акружэнні ён ні паяўляўся, калі толькі яго наведванне было звязана з неабходнасцю выказацца па сутнасці, загадзя можна было сказаць, што ён зараз-жа стане цэнтрам агульнай увагі. Ніякіх крыклівых, гучных слоў ён не скажа, але ўсё, што ён скажа, будзе так важка і многазначна, так метка і выразна, што выключная таленавітасць чалавека, які можа гаварыць так, стане для ўсіх відавочнай.

Простая на першы погляд знешнасць, але іменна толькі на першы погляд, а затым тая-ж знешнасць, незвычайна прывабная па свайму свячэнню асаблівай духоўнай прыгажосцю, простыя словы яго размовы, але ў такім спалучэнні, у якім неадкладна выяўляецца канцэнтраваная, незвычайная магутнасць яго інтэлекту,— гэта, зразумела, толькі некаторыя асобныя рысы геніяльнай асобы Владзіміра Ільіча. Несумненна і яго велізарная працаздольнасць, і наяўнасць шматбаковых здольнасцей (нездарма — першы вучань у гімназіі на працягу многіх гадоў), і вялікі запас арганічных сіл. Нават неяк дзіўна чытаць, і чытаць неаднаразова, у біяграфічных заметках пра Владзіміра Ільіча ўпамінанні аб яго магутным арганізме. Нябуйная фігура Владзіміра Ільіча як быццам не ўкладваецца са звычайным уяўленнем аб магутнасці. І тым не менш, гэта так: у гэтым невялікім кампактным целе сапраўды бурліла крыніцай жыццёвая энергія не толькі духу, але і моцнага, здаровага, нармальнага фізічна чалавека.

Кароткія, аднак, нашы зямныя шляхі. Таму вялікае шчасце выпадае на долю тых, якія яшчэ ў ранняй маладосці знаходзяць саміх сябе і свае асноўныя мэтаімкненні. Ці не ў гэтым наогул і заключаецца галоўная ўдача жыцця? Калі гэта так, то такая ўдача выпала на долю Владзіміра Ільіча спаўна. Ён гаварыў мне, што ўжо ў пятым класе гімназіі рашуча пакончыў з усялякімі пытаннямі рэлігіі: зняў крыж і кінуў яго на сметнік. А калі я яго ўпершыню сустрэў маладым 23-гадовым чалавекам, гэта быў яшчэ не адгранёны, але ўпаўне ўжо выразна выяўлены тып чалавека-маналіта, якому суджана было ў далейшым перад усім светам паказаць незвычайную сілу сваёй унутранай цэласнасці.

Перад маім разумовым позіркам праносяцца малюнкі Пецербурга і пецербургскіх студэнцкіх рэвалюцыйных гурткоў пачатку 90-х гадоў мінулага века. Паспрабую на прыкладзе першага перыяду дзейнасці Владзіміра Ільіча ў Пецербурзе паказаць, у чым іменна заключаліся мэтаімкненні гэтага незвычайнага юнака. І мне здаецца, што тады да некаторай ступені стане яснай тая асобая складка яго выключнай індывідуальнасці, якая рабіла з фігуры вельмі таленавітага, поўнага жыццёвай энергіі Владзіміра Ільіча Ульянава геніяльнага Леніна. Вучэнне навуковага соцыялізма мы лічым самай вялікай і самай важнай для працоўных навукай. Гэтая навука дае ключы да разумення важнейшага: яна паказвае, як трэба жыць, як трэба змагацца, каб змяніць, перабудаваць само жыццё так, каб яно з барацьбы ўсіх супраць усіх ператварылася ў гарманічны, радасны, брацкі лад. Іменна работы Маркса і Энгельса падрыхтавалі для працоўных магутныя сродкі барацьбы за ажыццяўленне цяжкага пераходу ад капіталізма да соцыялізма. Аднак палітычныя падзеі Заходняй Еўропы скла́ліся такім чынам, што 80-я і 90-я гады з'явіліся гадамі параўнальнага зацішша на фронце класавай барацьбы. Праўда, Энгельс сцвярджаў, што за гэтыя гады павольнай эвалюцыі соцыялдэмакратычная партыя Германіі нагульвала сабе чырвоныя шчокі, але ў канчатковым выніку атрымалася, што каштоўнейшая зброя, выхаваная такімі вялікімі кавалямі будучыні, якімі былі Маркс і Энгельс, была намаган-



нямі той-жа соцыял-дэмакратыі размешчана ў якасці запасной у бяскрыўдных арсеналах гэтай «легальнай апазіцыі».

І вось на нашых поўночных раўнінах паяўляецца незвычайны чалавек, які, як ніхто, усведамляе паражаючую сілу той зброі, якая выкавана геніем Маркса. Для яго марксіст — перш за ўсё рэвалюцыянер. Бурна ўрываецца ён у гэты арсенал запасной зброі нямецкай соцыял-дэмакратыі, зрывае баявыя даспехі са сцен, расчыняе вокны і дзверы, б'е ў набат і склікае да сябе мільёны працоўных, узбройваючы іх марксавай зброяй для барацьбы з капіталізмам і яго служкамі не на жыццё, а на смерць. Такім чалавекам быў В. І. Ульянаў-Ленін.

Самая лепшая палітыка — прынцыповая палітыка. У гэтым сэнсе, будучы выдатна ўзброеным кіруючымі прынцыпамі вучэння Маркса, Владзімір Ільіч быў цудоўным палітыкам.

Але добры палітык павінен таксама валодаць тым асобым пачуццем, якое называецца чуццём рэчаіснасці. Владзімір Ільіч прыкладам сваёй дзейнасці па працягу трох расійскіх рэволюцый наглядна паказаў нам вышэйшы ўзор такога надзвычай пранікнёнага ахопу і разумення рэчаіснасці.

... Паяўленне ў нас восенню 1893 г. В. І. Ульянава можна параўнаць з жыватворным па сваіх выніках навальнічным разрадам. З гэтага моманту для нас пачался новае жыццё. Вярнуўшыся восенню 1893 г. з летняй заводскай практыкі, я знайшоў увесь свой гурток у стане незвычайнага ажыўлення іменна па той прычыне, што новы друг, Владзімір Ульянаў, які прыйшоў да нас з берагоў Волгі, у найкарацейшы тэрмін заняў у нашай арганізацыі цэнтральнае месца. Ужо адна тая акалічнасць, што ён быў братам Аляксандра Ільіча Ульянава, аднаго з апошніх слаўных нарадавольцаў, пакаранага смерцю ў 1887 г., стварала яму самыя спрыяльныя ўмовы для сяброўскага прыёму ў нашым асяроддзі...

Аглядаючыся назад і ўспамінаючы фігуру тагачаснага 23-гадовага Владзіміра Ільіча, я ясна цяпер бачу ў ёй асобыя рысы здзіўляючай душэўнай чысціні і таго няспыннага гарэння, якое роўназначна пастаяннай гатоўнасці да подзвігу і самаахвяравання да канца. Магчыма, гэта ішло да яго непасрэдна ад фамільнай трагедыі, ад геніяльнага вобраза яго брата, што па-іншаму звязвала яго, чым нас, з традыцыямі папярэдняй гераічнай рэволюцыйнай барацьбы. Аднак нам, марксістам да педантызма, значна больш імпанавала ў ім яго здзіўляючае ўменне валодаць зброяй Маркса і выдатнае проста-такі ўражаючае знаёмства з эканамічным становішчам краіны па першакрыніцах статыстычных зборнікаў.

Мая першая сустрэча з Владзімірам Ільічом адбылася на кватэры З. П. Няўзоравай пры яго дакладзе ў нашым гуртку на тэму «аб рынках». У гэтым дакладзе Владзімір Ільіч бліскуча прадэманстраваў такое багацце ілюстрацый статыстычнага характару, што я адчуў своеасаблівае нястрымнае задавальненне, бачачы, якую грозную зброю дае марксізм у вывучэнні нашай уласнай эканомікі...

... За адкрыты лоб і вялікую эрудыцыю Владзіміру Ільічу прышлося паплаціцца клічкай «Стары», якая знаходзілася ў самым рэзкім кантрасце з яго юнацкай рухомасцю і маладой энергіяй, што бурліла ў ім крыніцай. Але тыя глыбокія веды, якімі свабодна аперыраваў гэты малады чалавек, той асаблівы такт і той крытычны спрыт, з якімі ён падыходзіў да жыццёвых пытанняў і да самых рознастайных людзей, яго незвычайнае ўменне паставіць сябе сярод рабочых, да якіх ён падыходзіў, як гэта правільна адзначыла Надзежда Канстанцінаўна Крупская, не як фанабэрысты настаўнік, а перш за ўсё як друг і таварыш, — усё гэта трывала замацоўвала за ім прыдуманую намі клічку. Прайшло нямнога месяцаў майго знаёмства з гэтым своеасаблівым «Старым», а я пачаў ужо лавіць сябе на пачуцці нейкай асаблівай паўнаты жыцця іменна ў прысутнасці, у сяброўскай гутарцы з гэтым чалавекам. Выходзіў ён, — і неяк адразу гаслі фарбы, а думкі ляцелі яму наўздагон...

Асвоіўшыся ў нашым асяроддзі, Владзімір Ільіч не замарудзіў рэволюцыянізаваць нашы парадкі. Ён перш за ўсё патрабаваў пераходу ад «перапаглыбленых» заняткаў з невялікімі гурткамі абраных рабочых да ўздзейнічання на больш шырокія масы пролетарыята Пецербурга, г. зн. пераходу ад прапаганды да агітацыі. З гэтай мэтай ён аб'яднаў у Пецербургу ўсе марксісцкія рабочыя гурткі ў адзін «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа».

... Такім адбіўся Владзімір Ільіч у маёй свядомасці за першы перыяд маёй пецербургскай сустрэчы з ім. Мы бачым, што ён рана знайшоў самога сябе, знайшоў тую лінію, нязыхільнае следаванне якой зрабіла яго вялікім другам і правадыром працоўных мас. Усю сваю здзіўляючую працаздольнасць, усю энергію сваёй палымянай душы ён умеў сканцэнтраваць для служэння адной усепаглынаючай мэце: арганізацыі і ўздыму мас рэволюцыйнага пролетарыята...

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## ПЛЫНЬ

Вучыцца — тое-ж, што плысці супраць плыні, толькі спынішся — і цябе гоніць назад.

Кітайская прыказка.

Вецер насустрач, насустрач імклівая плынь.
Хлопец у чоўне, смуглявы і рослы,
прагна глядзіць і плыве ўдалячынь —
вёслы скрыпяць, выгінаюцца вёслы.
Сонца насустрач і сіні прастор,
сіні прастор у вясёлкавай браме.
Хлопец плыве і плыве за сябрамі —
вёслы, як дужыя крылы, прасцёр.
Удалячынь, што расчынена насцеж,
голасам сэрца і ўласнай крыві
кліча цябе неспакойнае шчасце,
толькі хутчэй да яго даплыві.
Шчасце у кожнай тваёй перамозе,
шчасце — адолець і вецер і град,
шчасце — нідзе не спыняцца ў дарозе,
спынішся — плынню адгоніць назад.

## БЕЛЫЯ ЛІПЫ

Горад цудоўны юнацтва майго
кветкамі скверы усыпаў,
і на праспектах і плошчах яго —
белыя, белыя ліпы.

Белыя ліпы здалёку прыйшлі,
іх напаілі жывыя крыніцы
водырам нашае шчодрай зямлі,
і маладосцю ізноў расцвілі
белыя ліпы сталіцы.

Тут прызначае юнацтва сустрэчы,
марыць аб шчасці сваім юнакі.
Белыя ліпы каханым на плечы
ціха свае асыпаюць вянкі.

Моцна сплятуцца гарачыя рукі
самых прыгожых і шчырых людзей,
так, каб ніколі не ведаць разлукі,
так, каб любіць, як не любяць нідзе,

так, каб сагрэтыя дружбай далоні
нават гады астудзіць не змаглі-б,
так, каб у старасці белыя скроні
толькі нагадвалі замеці ліп,

так, каб ніколі ў жыцці не спыніцца,
каб маладзец ад імкненняў і дум...
Гэта пад ліпамі нашай сталіцы
нашы нашчадкі да шчасця ідуць.

Справы нашы, камсамольскія

# Моладзь, на фермы!

Новыя, велічныя задачы паставіў перад сельскімі працаўнікамі XX з'езд нашай роднай Комуністычнай партыі. З гарачым адабрэннем сустрэлі савецкія людзі гістарычныя рашэнні XX з'езда КПСС. З кожным днём па ўсёй краіне расце і шырыцца ўсенароднае спаборніцтва за ажыццяўленне новых планаў партыі. Калгаснікі, механізатары — усе людзі калгаснай вёскі нашай рэспублікі, падлічыўшы свае магчымасці, шчыра заявілі:

— Заданне шостай пяцігодкі па вытворчасці мяса і малака выканаем за два гады!

Як заўсёды, баявымі памочнікамі партыі ў вёсцы выступаюць камсамольцы. Па прыкладу моладзі Разанскай вобласці, дзе за два гады набылі спецыяльнасць жывёлаводаў 14 тысяч юнакоў і дзяўчат, беларускія камсамольцы, абмяркоўваючы рашэнні XX з'езда партыі, кінулі кліч: «Моладзь, на фермы!»

У нашай рэспубліцы ў жывёлагадоўлі занята цяпер 22 тысячы камсамольцаў. Яны прышлі на фермы не так даўно — пасля вядомага верасnёўскага Пленума ЦК партыі. Але вынік іх працы прыкметны.

Вось яркі прыклад. У калгасе «Комунар» Любчанскага раёна на жывёлагадоўчых фермах больш 40 членаў ВЛКСМ — амаль трэцяя частка ўсяго камсамольскага калектыву. Камсамольцы працуюць даяркамі, свінаркамі, пастухамі. На ферме створана камсамольская арганізацыя, якая згуртавала вакол сябе малады́х жывёлаводаў. За год калгас атрымаў ад жывёлагадоўлі амаль 2,5 мільёна рублёў. Калгаснікі гавораць, што такога прыбытку яны дамагліся дзякуючы працавітасці моладзі.

Ганарацца сваімі перадавікамі жывёлагадоўлі калгасы «Рассвет» Грэскага раёна, імя Жданава Асвейскага раёна, імя Крупскай Мінскага раёна і многія іншыя.

Ва ўсіх калгасах рэспублікі па закліку камсамола гэтай вясною працаваць на фермы прышло новае папаўненне. Тысячы маладых калгаснікаў сталі даглядчыкамі жывёлы, пастухамі. У іх гарачае імкненне — аддаць свае здольнасці, маладую энергію новай, карыснай і патрэбнай справе. Вельмі важна, каб на першых кроках на новай рабоце яны сустрэлі ўвагу і падтрымку. Ужо цяпер варта падумаць аб вучобе маладых жывёлаводаў, аб іх адпачынку. На жывёлагадоўчых фермах трэба смялей ствараць камсамольскія групы, паставіць справу так, каб там струменіла камсамольскае жыццё.

Справа гонару камсамольскіх арганізацый, райкомаў камсамола — падтрымаць патрыятычнае імкненне моладзі, якая ідзе працаваць на жывёлагадоўчыя фермы. Там, дзе ёсць неабходнасць, трэба смялей замяняць брыгадзіраў і загадчыкаў ферм, якія не хочуць ці не ўмеюць працаваць, маладымі, ініцыятыўнымі, адукаванымі працаўнікамі. Надзейным рэзервам для гэтага з'яўляюцца камсамольцы, якія працуюць на фермах з атэстатамі сталасці і якія прыйдуць сюды сёлета пасля заканчэння сярэдняй школы.

Камсамольцы, моладзь вёскі! Вашы энергічныя, працавітыя рукі патрэбны на фермах. Ідзіце смялей і дружней у жывёлагадоўлю!

Жывёлагадоўчая ферма сёння — гэта пярэдні край барацьбы за шостую пяцігодку ў вёсцы.











У новым пралёце механічнага цэха. Наладчыкі ўстанаўліваюць станкі, прысланыя з Краснадара.

# ПОСТУП ПЯЦІГОДКІ

**Фотанарыс С. ЧЫРЭШКІНА і С. КУХАРАВА**

Яшчэ нядаўна на гэтай вялікай узгоркавай прагаліне, паміж шашой і чыгункай, была пустэча; на голым пясчаніку вольна гулялі вятры.

— Тут будзе завод! — сказала партыя.

І на ўзгорак са станцыі Жодзіна пайшлі машыны з цэглай, дрэвам; у блакіт неба ўзняліся стрэлы вежавых кранаў. Колішняя пустэча ператварылася ў вялікую будаўнічую пляцоўку.

Першыя рабочыя новага ў рэспубліцы завода дарожных і меліяратыўных машын — «Дармаша» — пасяліліся ў невялікіх, але ўтульных, старанна зробленых драўляных доміках. Неўзабаве побач з'явіліся прасторныя, двухпавярховыя мураваныя дамы сапраўднага рабочага гарадка.

Хутка пасоўвалася наперад і будаўніцтва завода. Сёння ўжо ярка вырысоўваецца воблік гэтага завода-прыгажуна. Адбудаваны ліцейны, цэх, цэнтральны склад, кацельня, гараж. У рыштаваннях будынкі галоўнага корпуса, да якога прымыкае прыгожы будынак заводакіраўніцтва, а таксама іншыя вытворчыя аб'екты завода.

**Лепшыя людзі завода.** Зверху ўніз — **вядучы тэхнолаг камсамолец Сцяпан Грыцэнка, фрэзероўшчыца Люба Казлоўская, свідравальшчык Аркадзь Сярмяжка, фрэзероўшчык Васіль Драніца.**

Гордасцю машынабудаўнікоў з'яўляецца іх рабочы гарадок, які, як не трэба лепш, адлюстроўвае клопаты роднай партыі аб савецкіх рабочых. Роўнымі радамі бягуць удалечыню прыгожыя, двухпавярховыя дамы; аздобленыя зелянінай вуліцы заасфальтаваны. Усе кватэры рабочых электрыфікаваны, маюць цэнтральнае ацяпленне, вадаправод, каналізацыю.

Пры заводзе ўжо ёсць два інтэрнаты, утульная сталовая, магазін, лазня, дзіцячы сад. Хутка рабочыя будуць мець Палац культуры, бальніцу, школу-дзесяцігодку, свой стадыён.

— Завод наш зусім малады — ён нарадзіўся ў пятай пяцігодцы, — расказвае галоўны інжынер М. У. Грачоў. — Тым не менш мы ўжо даўно выпускаем сваю прадукцыю. Першы кустарэз зроблены тры гады таму назад. Так, здаецца, Канстанцін Паўлавіч?

Канстанцін Паўлавіч Волк — начальнік тэхнічнага аддзела, які пакуль што выконвае абавязкі і галоўнага канструктара, дастае з шуфляды стала фотаальбом са здымкамі машын і прылад, якія выпускае завод, і гаворыць:

— Так, кустарэзы мы пачалі выпускаць у 1952 годзе, а крыху раней мы ўжо рабілі каткі для ўкатвання грунту.

...Мы гартаем старонкі фотаальбома. Вось кустарэз першага выпуску. У гэтай машыне яшчэ няма той рухавасці і трываласці, якой дамагліся машынабудаўнікі ў працэсе творчых пошукаў.

Потым снегаачышчальнікі, планіроўшчыкі. Зноў кустарэзы... Ужо ўдасканаленыя — лягчэйшыя, больш зручныя і ўстойлівыя.

Прадукцыя беларускага «Дармаша» ўжо заваявала аўтарытэт. Яна ідзе ва ўсе куткі нашай краіны і за граніцу.

У незабыўныя дні работы XX з'езда партыі дармашаўцы адправілі партыю новых шыроказахватных снегаачышчальнікаў на Каўказ.

Але тое, што зроблена, — толькі першы крок па шляху да асваення новай у рэспубліцы галіны— дарожнага машынабудавання.

Вялікія, натхняючыя перспектывы росту завода ў новай, шостай пяцігодцы. За пяцігоддзе «Дармаш» і адбудуецца як мае быць, і будзе працаваць на поўную магутнасць.

Ужо ў бягучым годзе завод будзе выпускаць некалькі відаў новых машын. Сярод іх — кротадранажная машына, узор якой ужо зроблены; яна прызначана для пракладання падземных каналаў на пністых балотах. Новы магутны кустарэз, які праходзіць апошнія выпрабаванні, мае рухомы нож, а таксама прыстасаванне для збору зрэзанага хмызняку. Кустарэз з актыўным рабочым органам сканструяваны савец-

кімі інжынерамі ўпершыню ў практыцы сусветнага машынабудавання. Ім можна зрэзваць і тонкі хмызняк, і тоўстыя дрэвы...

Знаёмячы нас з планамі на новае пяцігоддзе, дырэктар завода Васіль Палікарпавіч Цыганок прыводзіць цікавыя, яркія лічбы і факты.

У новай пяцігодцы будзе здана ў эксплуатацыю 30 тысяч квадратных метраў вытворчай плошчы. Толькі галоўны корпус, будаўніцтва якога завяршаецца, складаецца з шасці пралётаў і займае плошчу 15.800 квадратных метраў.

Намечана яшчэ большымі тэмпамі, чым раней, разгарнуць жыллёвае будаўніцтва. Некалькі шматкватэрных дамоў агульнай плошчай у 4.300 квадратных метраў будзе здана ў сёлетнім годзе. Для рабочых, якія пажадаюць пабудаваць індывідуальныя дамы, адведзена зямельная плошча.

Заўтрашні дзень завода ярка паўстае, калі знаёмішся з яго перспектыўным тэхнічным планам. Вось некаторыя кароткія выпіскі з гэтага плана.

Ужо ў першым квартале гэтага года здаецца ў эксплуатацыю земляное аддзяленне ліцейнага цэха; намечана ўстанавіць адну трохтонную электрапеч, каб ужо ў другім квартале пачаць плаўку; пабудаваць печы для абпальвання стальнога ліцця. Завод спецыялізуецца па стальному ліццю. Яго трэба будзе выпускаць у такой колькасці, каб хапіла не толькі сабе, але і для іншых заводаў дарожнага машынабудавання.

На працягу бягучага года ўвойдзе ў строй тэрмічны цэх, а таксама будзе арганізавана цэнтральная лабараторыя з хімічным, механічным, металаграфічным і вымяральным аддзяленнямі. Значна расшыраецца кавальска-прэсавы цэх, у якім будуць устаноўлены новыя магутныя прэсы, штамповачныя малаты, універсальныя, высокапрадукцыйныя штампы, аўтаматы і поўаўтаматы.

Распрацаваны на кожны год канкрэтныя заданні па далейшаму ўдасканаленню тэхналогіі вытворчасці, укараненню новай тэхнікі, па замене і рэканструкцыі старога абсталявання, зніжэнню працаёмкасці вытворчых работ. Напрыклад, цяпер на заводзе скорасным метадамі працуюць дзесяць станкоў, а да канца бягучага года такіх станкоў будзе 25; на павышанай скорасці ў бліжэйшыя два гады павінна працаваць не менш 35 працэнтаў усіх станкоў, якія ёсць у механічным цэху.

На працягу пяцігодкі ўвойдуць у дзеянне не менш 10 паточных і пераменна-паточных і 2 канвеерныя лініі механічнай апрацоўкі дэталяў і зборкі вузлоў машын.

У 1956—1960 гадах на заводзе будзе створана новае гальванічнае аддзяленне для пакрыцця металу і камеры для афарбоўкі і сушкі машын.

Заканчваючы свой расказ, дырэктар завода падкрэслівае, што ў новай пяцігодцы прадукцыйнасць працы павялічыцца ў дватры разы, а выпуск валавай прадукцыі, прыкладна ў тры-чатыры разы.

— І не за кошт павелічэння колькасці рабочых, — дадае галоўны інжынер, — а іменна за кошт укаранення новай тэхнікі, перадавых метадаў працы і тэхналогіі.

...Мы былі ў цэхах, гутарылі з рабочымі, майстрамі, інжынерамі. Усе жодзінскія машынабудаўнікі, натхнёныя гістарычнымі рашэннямі XX з'езда КПСС, у адзін голас заяўляюць:

— Заданне шостай пяцігодкі — перавыканаем!

Гэтак і будзе! Ужо сёння і ў цэхах, дзе кіпіць напружаная праца, і ў канторках інжынераў-канструктараў і тэхнолагаў, дзе ідуць нястомныя творчыя пошукі і выпрабаванні будучых машын,— на ўсіх участках завода разгортваецца гарачае змаганне за планы шостай пяцігодкі. Ужо сёння лепшыя людзі завода абганяюць час, працуюць так, каб скараціць тэрміны выканання плана. Як і належыць, моладзь нясе ўперад сцяг спаборніцтва, паказвае ўзор высокапрадукцыйнай працы. У пярэдадзень XX з'езда партыі камсамольцы свідравальшчык Аркадзь Сярмяжка, фрэзероўшчык Васіль Драніца, слесар-інструментальшчык Уладзімір Карповіч, слесар-зборшчык Іван Камароўскі сталі на працоўную вахту і амаль кожны дзень выконвалі на 200 працэнтаў зменнае заданне. Натхнёныя гістарычнымі рашэннямі XX з'езда КПСС, маладыя перадавікі не зніжаюць тэмпаў, змагаюцца за першынство ў вялікім рабочым калектыве.

Лік перадавікоў і наватараў на заводзе «Дармаш» няспынна павялічваецца. З першага месяца новага года ўсе цэхі працуюць рытмічна, па графіку. Падцягнуліся і будаўнікі, якія ўзводзяць вытворчыя і жыллёвыя будынкі.

У красавіку пераходзіць у новае памяшканне механічны цэх. У прасторным, вялікім пралёце ўжо ўстаноўлены новыя магутныя станкі. Неўзабаве атрымаюць выдатнае памяшканне рабочыя цэхаў зборкі і металаканструкцый. Завод набывае сапраўды індустрыяльны выгляд.

Тое натхненне і энтузіязм, якім ахоплены машынабудаўнікі, сведчыць, што план новай, шостай пяцігодкі будзе выканан з гонарам.

★



Галоўны інжынер завода Мікалай Усцінавіч Грачоў правярае чарцяжы новай машыны, якая рыхтуецца да серыйнага выпуску. Побач з галоўным інжынерам — капіроўшчыцы комсамолкі Тацяна Лучонак і Ольга Сярмяжка.

★



Зборка снегаачышчальнікаў. Лепшыя зборшчыкі Н. Шэметаў і І. Камароўскі.







Машыны, якія будзе выпускаць завод у новай пяцігодцы. (Злева направа): кротадранажная машына «М-2», палівамыечная машына «Д-298», шчылевая машына «М-8».

# Пачатак дружбы

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага

... Зноў я дома.

Перада мной заліковая кніжка студэнткі педінстытута. Яе толькі што глядзела маці.

— Добра, — сказала яна неяк неакрэслена. Што азначае гэтае «добра», спытаць я пасаромілася. І вось зараз думаю, напэўна, «добра», што дзве адзнакі выдатныя. А можа, «добра», што я дадому прыехала?

Мае думкі перарвала сірэна легказушкі. Аўтамашына пад'ехала амаль да самых дзвярэй. З яе вылез мой бацька, высокі, крыху сутулаваты, у сваёй нязменнай скуранцы. Не сцярпела, не ўседзела на канапе. Падляцела да дзвярэй, і як толькі бацька пераступіў парог, кінулася яму на шыю.

— Ах, гарэза. Дай хоць паглядзець на цябе.

А сам бярэ мяне за галаву і моцна цалуе ў лоб.

Здаецца, не такі ўжо доўгі тэрмін, усяго пяць месяцаў не была дома, а як радасна сустрэцца, як тут хораша!

Мне не цярпіцца. Хочацца ўсё паглядзець, усё пачуць. Таму, угаварыўшы маму, я адразу-ж пасля абеду іду з бацькам у МТС.

Пабывала ў яго кабінеце, зайшла ў клуб, пачытала насценную газету. На Дошцы гонару— аж трыццаць адзін чалавек! І на самым першым месцы: «трактарыст Сцяпан Татур — выканаў гадавы план на 201 працэнт». «Татур... Нейкае прозвішча новае», — падумала я.

А чаму на Дошцы гонару няма фотакартак? Адны толькі прозвішчы.

Вечарам дакараю за гэта бацьку.

— Ты пакуль адбудзеш канікулы, дык, напэўна, за ўсялякую дробязь будзеш дакараць, — смяецца бацька. — ... У нашай новай майстэрні яшчэ не была?

Вось хітры! Адразу пераводзіць размову на другую тэму.

— Не, не была.

— Пойдзем заўтра?

Новая майстэрня ўступіла ў строй нядаўна. Настрой у бацькі нядрэнны. У майстэрні ён спыняецца ля кожнага вузла, размаўляе з рамонтнікамі, жартуе, раіць, дае заўвагі. Вітаючыся са знаёмымі, неадступна крочу за ім і я. І пакуль бацька гаворыць, я назіраю за работай людзей.

— Нешта я Татура не бачу. Дзе ён? — запытаў бацька ля вузла зборкі матораў.

— Выйшаў некуды... Во ён, ідзе, — чуецца адказ.

Вось ён які, гэты трактарыст! Звычайны хлопец...

— Я вас слухаю, — кажа Татур бацьку.

— Як справы, Сцяпан?

— Так сабе, — і збянтэжана ўсміхаецца.

Бацька ўважліва разглядае толькі што сабраны матор, нешта ў ім круціць, паварочвае, прыслухоўваецца.

А я непрыкметна для другіх гляджу на Татура. І рост яго не багатырскі. Здаецца, стаў-бы поплеч са мной, і якраз роўныя.

Нібы незнарок, Татур кінуў позірк на мяне. Выйшлі мы з майстэрні, і бацька пытае:

— Спадабалася?

— Ага, — адказваю я. А сама думаю пра Татура.

Маю думку як-бы ўгадвае бацька.

— Добры хлопец гэты Татур. З арміі вярнуўся і адразу — у вучылішча механізацыі. Трактарыст. Заядла працуе.

Цяпер зразумела, чаму ў МТС я чую такое прозвішча першы раз. Амаль усіх старых механізатараў я ведаю.

Вечарам у нашым клубе дэманструецца новы кінофільм. Яго я ўжо бачыла ў Гомелі, дзе вучуся. Але што-ж рабіць, калі мама збіраецца ў клуб і запрашае мяне таксама.

— Вера, — кажа яна мне. — Ідзі ты раней і займі там добрае месца.

Прышла, узяла білеты і села. Чакаць пачатку не так ужо і мала—цэлая поўгадзіна, а людзі ўсё прыходзяць і прыходзяць. Многія месцы ўжо заняты.

Часцей паглядаю на дзверы: вось-вось павінна прыйсці маці.

Ідзе група нашых рамонтнікаў, і сярод іх я бачу Татура. Спыніліся, глядзяць, дзе ёсць незанятыя месцы. А потым ідуць па праходу. Татур ззаду. Усе мае знаёмыя. Ведаюць, што я буду не адна, і праходзяць. А Татур спыніўся і пытае:

— Скажыце, можна тут сесці?

— Можна.

Ой, што-ж я нарабіла?! А дзе-ж маці сядзе?

Але позна ўжо. Мой новы знаёмы сеў, скінуў шапку, прычасаў свае русыя валасы.

Ад мяне Сцяпан злева, і дзверы таксама злева. Так што, калі я гляджу на іх у чаканні маці, то непрыкметна для свайго суседа пагляджаю і на яго. Ён часам азіраецца па баках і, калі сустрэнецца позіркам са знаёмымі, усміхаецца.

Са мной прывіталася Ніна Пятроўна — дыспетчар станцыі, спытала, як справы, на колькі прыехала. Але, бачачы, што я з неахвотай уступаю ў размову, яна змоўкла. Увайшла мама і вачыма шукае мяне. Я паднялася, іду насустрач.

— Ведаеш, — кажу я ёй, — месца каля мяне няма. Але пойдзем, неяк размесцімся.

— Няма — і не трэба. Пайду да бацькі, ён прынясе два крэслы, — адказвае яна.

А да пачатку сеанса яшчэ мінут дзесяць. Чакаем. Сцяпан маўчыць. Маўчу і я.

Раптам на падлогу падае мая сумка. Я раблю спробу дастаць яе. Але мяне апераджае Сцяпан. Падае сумку, я яму дзякую, і ён гаворыць:

— Калі ласка.

Прамільгнулі апошнія кадры фільма. Сцяпан, як ні ў чым не бывала, накіраваўся да таварышаў. Я — да бацькі і маці.

Наступны дзень пачаўся ў мяне няўдачаю.

Хацела пайсці пакатацца на лыжах. Толькі ад'ехала крокаў сто ад дому—парвалася мацаванне на левай лыжы. Вярнулася. Пачала шукаць якога-небудзь шнурка, каб сшыць мацаванне — не знайшла. Я за лыжу — і ў майстэрню. Ведаю, што там хлопцы нешта прыдумаюць, асабліва тыя, што працуюць на сілавой установцы. Там, я неяк бачыла, сшывалі рамень, які злучае генератар з дызелем.

У сілавую мне можна ісці вакол майстэрні, а можна і праз яе. Я пайшла праз майстэрню. Іду, лыжына ляжыць на плячы. Са мной вітаюцца знаёмыя, жартуюць. Сустракаю Пятра Ігнатавіча, брыгадзіра трактарнай брыгады, лепшага лыжніка ў раёне.

— Вы што, Вера, з лыжай? — пытаецца ён.

Я расказала пра сваю няўдачу.

— Вялікая справа! Давайце дрот вам навяжу.

Жартуе, вядома. І хоча ўзяць лыжыну. Але я, таксама жартам, рэзка паварочваюся і тым канцом, што ззаду, стукнула кагосьці. Агледзелася — Сцяпан. Усе смяюцца, а ў мяне сэрца не на месцы.

— Прабачце, — кажу я і ўсміхаюся.

— Нічога, нічога, — адказвае Татур і займаецца сваёй справай.

Чаго ён такі сур'ёзны?

Лыжу мне адрамантавалі.

Вечарам да мяне прышла мая сяброўка Валя, і мы пайшлі з ёю ў чырвоны куток.

У чырвоным кутку некалькі маленькіх столікаў, многа крэслаў. У кутку — піяніна. І за кожным столікам сядзяць механізатары, работнікі канторы. Адны гуляюць у даміно, другія — у шахматы, трэція — чытаюць часопісы, газеты.

Каля аднаго са столікаў сабралася некалькі чалавек. Тут ідзе гульня ў шашкі.



Шашкамі я таксама крыху захапляюся. Таму з цікавасцю назіраю за змаганнем двух шашыстаў. Пад агульнае адабрэнне выйграў знаёмы мне камбайнер. Абодва супернікі, адзін— засмучаны пройгрышам, другі — узрадаваны перамогай, падняліся з месц.

Сеў другі і пытае, хто з ім хоча згуляць.

— Са мной згуляйце, — кажу я.

У мяне белыя, і я пачынаю ігру. Па першых ходах майго «непрыяцеля» бачу, што ў шашках ён моцны.

Ход мой. Нехта працягвае да маіх шашак руку і замест мяне рухае пешку ўперад. Я адсоўваю яе назад. А потым, бачачы, што такі ход «з клічнікам», іду ім. «Працаўнік» задумваецца. Ідзе. Зноў мне хадзіць, і зноў нечая рука рухае пешку.

— Хто тут мне дапамагае? — пытаюся я і аглядваюся назад.

Сцяпан! І адразу яго твар пакрываецца чырванню.

— Хадзіце, — гаворыць ён.

Гэтым ходам я прымушаю «працаўніка» біць дзве пешкі, а сама бяру чатыры і прабіраюся ў дамкі.

— Сур'ёзны «працаўнік»?—пытаюць у свайго сябра «балельшчыкі».

— Вельмі, — адказвае той, гледзячы на Сцяпана. — Чэмпіён МТС — не жарты.

Наступную партыю я гуляю са Сцяпанам.

Я гляджу на яго, задумёнага, засяроджанага, і аж баюся: не мінаваць мне «вугла». Згулялі партыю, другую. Выйграе ён.

І вось адбываецца тое, чаго я больш за ўсё чакаю. Усе «балельшчыкі» ад нас адыйшлі, бо прынеслі настольны більярд. Мы сядзім насупраць адзін аднаго толькі ўдваіх. Гуляем моўчкі. «Што за чалавек? — думаю я. — Ну, загавары-ж ты хаця!» Нарэшце, бяру ініцыятыву ў свае рукі.

— Хадзіце, — кажу я, не даючы яму нават падумаць.

— Зараз, Вера.

— Адкуль вы ведаеце маё імя? Мы-ж не знаёміліся.

— Вас тут называлі некалькі разоў так.

Крыху памаўчаўшы, я пытаюся:

— А як ваша імя?

Татур схіліў галаву і назваў сябе.

— У мяне да вас пытанне ёсць, — кажу я, зрабіўшы свой ход. — Мне здаецца, вы вельмі маўклівы.

— Гэта-ж не пытанне, а вывад, — адказвае Сцяпан.

— Няхай вывад.

— Магчыма...

Зноў маўчым.

— Чытаць вы любіце? — пытаю праз нейкі час.

— Люблю.

— Хочаце, я што-небудзь прынясу?

— Прынясіце, — ажывіўся Сцяпан.

Цяпер ужо ён пачынае задаваць мне пытанні: дзе я вучуся, на якім курсе, ці доўга тут буду, калі чакаць кнігу.

Колькі мы партый згулялі, не памятаю. Запомніла толькі адно—усе прайграла. І ўсё-ж настрой у мяне быў добры.

Не дзяўчыне гэта гаварыць, а я прызнаюся: вельмі ўжо хацелася, каб Сцяпан праводзіў мяне дадому. Я ўстала з-за стала, сказала, што стамілася, развіталася і выйшла. А Сцяпан застаўся.

Дома я пачала чытаць «Буру» Лацiса, але мне не чыталася. Успомніўся інстытут, таварышы, і асабліва Генька. З ім я заўсёды танцавала на інстытуцкіх вечарах, разы са два хадзіла ў кіно. Часам мы спраўлялі імяніны якога-небудзь блізкага таварыша, сустракалі вялікія святы. Генька заўсёды быў разам са мной.

Я міжволі параўноўвала Геньку і Сцяпана. Першы — занадта гаваркі, другі — больш маўчыць. Генька любіць выхваляцца, добра апранаецца, а займаецца — з нацяжкай. Сцяпан — сціплы, працалюбівы. З Генькам мне было заўсёды весела, ён не дае сумаваць. А са Сцяпанам ніяк не атрымоўваецца вясёлай гаворкі. І ўсё-ж... аб ім я думаю ўсё часцей.

Бачыць Татура назаўтра мне не давялося. З раніцы я ўзяла лыжы і пайшла да Валі. З ёй мы паехалі за горад і каталіся аж да цямна. Прыехалі зморанья, расчырванелыя, але вельмі радасныя.

А калі Валя мяне крыху праводзіла дадому, неяк, нібы незнарок, спытала пра Сцяпана. Я расказала ўсё, што адбывалася пры шашачнай гульні.

— Ведаеш, — гаворыць сяброўка, — ён, напэўна, сароміцца цябе.

— Чаму?

— Як ні кажы, а ты — дачка дырэктара, студэнтка. А ён... звычайны рабочы.

— Глупства ты кажаш, — заўважаю я. — Проста чалавек такі ціхі.

І ўсё-ж я крыху памылілася.

Ніна Пятроўна, аб якой я ўспамінала, выконвае важнае даручэнне — рэдагуе насценную газету. Прышла яна да мяне і гаворыць:

— Верачка, дапамажы. Уся рэдкалегія раз'ехалася. А тут трэба «Баявы лісток» размножыць. Зрабі пару экземпляраў.

Я ахвотна ўзялася за гэтую справу. А калі зрабіла яе, з Нінай Пятроўнай за кампанію пайшла вывесіць «Баявы лісток» у майстэрню. Тут быў і бацька.

— Мо' абедаць пойдзем? — пытаюся я ў яго.

— Некалі. Вось зараз кароценькая нарада будзе. Паслухай, калі хочаш.

Нарада праходзіла тут-жа, у майстэрні. Спачатку выступіў старшыня рабочкома. Ён расказаў, які вузел ідзе ў ліку перадавых, назваў прозвішчы рамонтнікаў, што перавыконваюць нормы. І першым было названа прозвішча Татура. Аб ім-жа пісалася і ў «Баявым лістку».

А потым узяў слова мой бацька. Ён так раскрытыкаваў двух лодыраў, што ім не было куды дзецца.

— Можа яшчэ сказаць хто хоча? — спытаў старшыня рабочкома.

Кароткае маўчанне. І раптам наперад выходзіць Татур.

— Дазвольце слова.

— Калі ласка.

— За апошнія дні мы сабралі толькі адзін матор. Хіба гэта работа? А хто вінаваты? Загадчык майстэрні Максімаў. Другі дзень не працуе мыечная, а ён хоць-бы што!

— Чаму да гэтага часу не працуе мыечная? — перабіваючы Татура, пытае ў Максімава бацька.

— Матор згарэў, а пераматаць яго не так ужо і проста,—адказвае той.—Але праз дзень пойдзе.

— А чаму людзей не паставілі, каб уручную на гэты час мыць?

— Няма каго.

— Прадаўжай, Татур.

— Я ўжо і забыўся, што хацеў казаць, — кажа Сцяпан. І тут чуваць дружны смех. — Дык вось, з-за адсутнасці мытых частак уся майстэрня на поўсілы працуе...

— Выправім гэта, — кажа пачырванелы ад сораму Максімаў.

Вось дык Татур! Які ён пасля гэтага ціхі?!

Нарада, якая працягвалася не больш пятнаццаці мінут, закончылася. Максімаў, чэшучы патыліцу, ідзе міма мяне, вітаецца.

— Бачыце, якая работа. «Людзей пастаў»... А дзе іх узяць?

І праўда, дзе-ж ён возьме людзей, калі кожны рамонтнік выконвае сваю працу? Можа, мне пайсці дапамагчы? Не, я-ж у адпачынку. Ну, што са мной зробіцца, калі два-тры дні дапамагу? Больш не раздумваючы, я даганяю Максімава і кажу:

— Стаўце мяне на мыйку.

— Што вы, Вера?!

— Нічога. Стаўце і ўсё.

Гавару аб гэтым бацьку.

— Ну, што-ж, паспрабуй, калі хочаш.

І проста пасля абеду я і яшчэ дзве жанчыны становімся ля ванны, бярэм у рукі анучы і мыем ад густога масла новыя часткі. Мыем і тыя, што былі ў рабоце. Мыць многа чаго ёсць: матор увесь у разабраным выглядзе.

Адзін раз падышоў да нас Сцяпан: яму патрэбна была адна дэталь. Ён уважліва яе агледзеў, і хацеў ужо ісці, але я яго прыпыніла.

— Хачу адпомсціць вам, — кажу я Татуру.

— За якую крыўду?

— За выйгрыш у шашкі.

Сцяпан чырванее, а потым усміхаецца.

— Што-ж, калі ласка... У чырвоным кутку будзеце?

У знак згоды я кіўнула галавой.

...У чырвоным кутку Сцяпан чакаў мяне з шашкамі ў руках. Народу тут многа і кожны чым-небудзь займаўся. Пагледзелі мы дзе нам сесці, і не знайшлі.



— Ведаеце, — кажу я Татуру — пойдземце да нас на кватэру. У нас ёсць шахматы.

— Не, што вы...

— Хадземце... — настойваю я.

Па дарозе да кватэры Татур прапаноўвае вярнуцца назад. Чаму? Сароміцца бацькі і маці. Я кажу што бацькі яшчэ няма, а маці мая вельмі добрая.

Я памылілася. Бацька быў дома, і ён ветліва сустрэў Сцяпана. А Сцяпан крыху разгубіўся.

— Садзіся, Татур... Як справы? — пытае бацька.

— Нічога сабе.

— А ведаеш, тваю рацыяналізатарскую прапанову мы прынялі. Выдатная задума.

— Дзякую.

Я папрасіла расказаць, што за прапанова.

— Усёроўна ты не зразумееш, — адказвае бацька.

Настойваю.

— Культыватар бачыла?

— Бачыла.

— Ну, вось, у гэтым культыватары ёсць такі механізм выключэння і ўключэння. Сцяпан яго спрасціў, і ад гэтага культыватар стаў лягчэйшым, яго лепш будзе захоўваць ад паломак у час работы. Зразумела?

— У агульных рысах толькі, — прызнаюся я.

Хутка бацька пайшоў да Максімава, маці — на кухні. Мы толькі ўдваіх. Сцяпан гуляе вельмі ўважліва, доўга думае над кожным ходам. (Ці гэта мне здаецца так?) Я хаджу хутка і прайграваю.

— Хопіць, не адпомшчу я, здаюся. Зараз кнігу вам выберам.

Сцяпан згаджаецца. Мы перабралі многа кніг, выбралі такую, якую Сцяпан не чытаў.

З гэтага дня дружба ў нас наладзілася. Мы сустракаліся кожны вечар: то ў кіно былі разам, то ў нас, то ў чырвоным кутку.

... Наступіў апошні дзень канікулаў. Як цяжка было пакідаць дом, майстэрню, дзе я працавала аж да канца адпачынку! Адрамантавалі мыйку — дапамагала афармляць нарады, падлічваць вынікі працы кожнага рамонтніка, выпускаць «Баявыя лісткі».

Аднак ехаць трэба. Вось ужо мы на станцыі, чакаем цягніка. Мяне праводзіць бацька, маці. А Сцяпана, вядома, няма. Ён на рабоце. Але ў яго запісной кніжцы застаўся мой адрас.

**Яўген Карнееў,**
**рэдактар Смаргонскай раённай газеты.**

# МЕСЯЦ У АНГЛІІ

**Карэспандэнты часопіса «Маладосць» наведалі з магнітафонам народнага артыста СССР Н. Д. Ворвулева і папрасілі расказаць аб уражаннях ад паездкі ў Англію. Ніжэй мы друкуем яго расказ.**

У пачатку лістапада мінулага года я з групай савецкіх артыстаў быў запрошаны ў Англію. Таварыства англа-савецкай дружбы папрасіла нас даць рад канцэртаў. Справа ў тым, што ў лістападзе гэтае таварыства праводзіла месячнік дружбы паміж народамі нашых краін.

У Лондан мы прыляцелі ноччу. Цудоўнае відовішча прадстаўляе гэты горад з самалёта — сапраўднае мора рознакаляровых агнёў — жоўтых, зялёных, чырвоных. Яркая рэклама — у вялікай пашане ў англічан.

Мы наведалі многія гарады Англіі і Шатландыі, выступалі перад самай рознастайнай аўдыторыяй і ўсюды сустракалі цёплы дружалюбны прыём. Працоўныя — рабочыя, служачыя, студэнты — жыва цікавіліся жыццём нашай краіны, гаварылі, што дружба і супрацоўніцтва паміж нашымі народамі несумненна будзе садзейнічаць умацаванню міру на ўсёй зямлі.

Лондан — старажытны велізарны горад. Тут можна ўбачыць сярэдневяковыя збудаванні, а побач — дамы ў самым ультрасучасным стылі. У першых паверхах амаль усіх дамоў — магазіны, рэстараны, розныя атэлье і майстэрні. Здзіўляе, што многія будынкі не адноўлены з часу вайны. Яны абнесены платамі, на якіх наклеены розныя афішы і аб'явы. Як нам растлумачылі, уладальнікі гэтых дамоў не хочуць або не могуць займацца іх аднаўленнем.

Як я ўжо сказаў, былі мы ў Лондане глыбокай восенню і засталі славутыя туманы, калі не бачна чалавека на вуліцы літаральна на адлегласці аднаго метра.

Цікавы адзін выпадак: мы неяк ехалі па вуліцы ў машыне. Шафёр зусім нічога не бачыў і адзін з нашых спадарожнікаў-англічан выйшаў на тратуар, каб ісці побач з машынай і паказваць вадзіцелю дарогу.

Лонданцы шукаюць усялякія спосабы бяспечнага руху ў часе туманаў — прымяняюць каляровае асвятленне вуліц, сярэдзіну маставой выкладваюць спецыяльнымі бліскучымі каменнямі, якія адбіваюць святло, і г. д. Ва ўсякім выпадку жыццё вялікага горада і вулічны рух нават у часе самых моцных туманаў ідуць сваім парадкам.

Хочацца адзначыць высокую культуру абслугоўвання ў магазінах, рэстаранах, гасцініцах Англіі. Так, калі вы хочаце памераць абутак, — у абутковым магазіне вам прапануюць рэнтгенаўскі апарат, каб паглядзець, як прылягае чаравік да нагі. Лонданская гасцініца, у якой мы жылі — «Кенсінгтон-палас атэль» — кожнаму прыезджаму прапануе картку са схемай прылягаючых раёнаў горада.

Многія нашы людзі, якія пабылі ў Англіі, расказвалі аб любві англічан да старых традыцый. Вось яшчэ адна дэталь: у гасцініцах, дзе няма паравога ацяплення, нумары абсталяваны газавымі камінамі. Мы доўга не разумелі, чаму каміны не паляцца, нягледзячы на холад. Потым нам сказалі, што гэта каміны-аўтаматы, і пакуль не кінеш манету ў адтуліну, як у тэлефон-аўтамат, камін гарэць не будзе. Пасля двух гадзін гарэння падача газу аўтаматычна спыняецца, і манету трэба кідаць зноў...

Асабліва моцнае ўражанне зрабіў на мяне горад Глазго. Тут асабліва цёпла сустрэлі нас рабочыя. У гэтым горадзе я спаткаў двух старых знаёмых — членаў англійскіх дэлегацый, якія былі ў нас у Мінску. Адзін з іх пажылы столяр Коліндз Райт — сустрэў мяне на канцэрце замест прывітання словамі «Беларусь! Барытон?» «Oh, yes!», — адказаў я, і мы па рускаму звычаю пацалаваліся. Ён шмат распытваў аб беларускім мастацтве, аб Дзяржаўнай беларускай харавой капэле, якой кіруе Р. Р. Шырма. Я расказаў, што Шырма падрыхтаваў да друку зборнік беларускіх народных песень.

— З нецярплівасцю буду чакаць гэтую кнігу, мы развучым беларускія песні і будзем іх выконваць у сваёй Шатландыі, — сказаў Коліндз Райт на развітанне.

Вялікае задавальненне прынеслі нам шатландскія народныя танцы, якія мы бачылі ў выкананні самадзейных ансамбляў. Шатландцы-мужчыны выступалі ў сваіх нацыянальных касцюмах — кароценькіх спадніцах і расшытых куртках. Нажаль, нам з-за недахопу часу (канцэрты былі амаль кожны дзень) давялося вельмі мала быць у тэатрах.

Рабочыя Глазго праводзілі нас, спяваючы на сваёй роднай мове песню аб Волзе, якую я выконваў у канцэрце.

Паездка наша не абыйшлася і без прыкрых кур'ёзаў. Адзін з англійскіх журналістаў спытаў у нашага скрыпача Валянціна Жука, як жывуць савецкія артысты, ці не церпяць яны нястачы. Жук адказаў, што ў Савецкай краіне любяць мастацтва, і артысты жывуць забяспечана. На наступны дзень гэты пісака змясціў у сваёй газеце заметку, дзе гаварыў, што «артысты — прывілеяваны клас у СССР». Але мы, вядома, разумеем, што не гэтыя агідныя практыкаванні ў паклёпе вызначаюць сапраўдныя адносіны англійскага народа да Савецкага Саюза.

Наша паездка паказала, што народы Англіі і СССР могуць жыць у міры і дружбе. Культурны абмен з'яўляецца адным з немалаважных сродкаў збліжэння народаў.



**Н. Д. Ворвулеў ля мікрафона.**

Фота А. Дзітлава.



## ДАРОГУ ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ

**У Мінску адбылася рэспубліканская нарада творчай моладзі. У яе рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі абласных і сталічных тэатраў, філармоніі, народнага хору, Саюза мастакоў.**

**Удзельнікі нарады заслухалі і абмеркавалі даклады сакратара ЦК ЛКСМБ Д. Бальшова «Аб палітычна-выхаваўчай рабоце сярод творчай моладзі», народнага артыста БССР Д. Орлова «Аб творчым росце тэатральнай моладзі» і сакратара Саюза мастакоў БССР т. Нікіфарава «Аб выхаванні маладых мастакоў».**

**Выступаўшыя ў спрэчках маладыя артысты, рэжысёры гаварылі аб неабходнасці палепшання палітычна-выхаваўчай работы сярод моладзі, аб смялейшым вылучэнні маладых акцёраў на адказныя ролі, аб узняцці беларускага мастацтва на новую, вышэйшую ступень.**

На здымку: **удзельнікі нарады творчай моладзі** (злева направа): **Нікалай Красоўскі — саліст балету Беларускага тэатра оперы і балету, Інна Дзідзенка — артыстка Віцебскага драматычнага тэатра, Лідзія Шубіна — артыстка рускага тэатра БССР, Таіса Канавалава — артыстка тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі, Рустэн Сувораў — артыст Магілёўскага драматычнага тэатра, Інэса Дзяніскевіч — артыстка Гродзенскага драматычнага тэатра, Юры Сідараў і Зоя Асмалоўская — артысты рускага тэатра БССР.**

Фота В. Вяхоткі.



У вольную часіну прычэпшчыца Раіса Зотава любіць паслухаць пералівісты голас гармоніка. Добра іграе трактарыст Ніналай Нікішын!

Фото В. Панамарова.



**У цэнтральнай кантрольна-насеннай лабараторыі Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. Галоўны аграном Е. В. Курыленка і старшая лабарантка С. Я. Шыкунец вядуць даследаванне насення кукурузы, падрыхтаванага калгасамі да пасеву.**

Фото А. Дзітлава.

# РАСЦІ, КУКУРУЗА!

**Пятро ШАСЦЕРЫКОЎ**

Лідзія адчувала сябе ніякавата. Яна нават разгубілася і не ведала, што далей рабіць. Пасевы кукурузы заглушае пустазелле, а звяно зусім распалася. Яго пакінулі пажылыя калгасніцы, на якіх Лідзія вельмі спадзявалася.

— Не хачу марна сілу траціць, — казала старая калгасніца Тацяна Панкратава. — Які нам участак далі? Летась тут пасадзілі буракі, а што сабралі? Каліва не было добрага, адно пустазелле. Каб хоць на зябліва тую зямлю ўзаралі.

— Не даглядалі буракі, дык і не выраслі, — пярэчыла звеннявая Лідзія Васюкова. — А мы-ж вывезлі па 30 тон гною ды па 5 тон торфу на кожны гектар, закампаставалі ўсё.

— Закампаставалі! А якая карысць? — Панкратава паказала рукой на зарослую пустазеллем дзялянку. — Дзівіся. Гніся тут, шчыруй колькі хочаш, церабі пустазелле, а ці будзе кукуруза, невядома. Ды наогул, як расце яна ў нас, ніхто не ведае.

— Дзяўчаткі, праўду кажа Тацяна,—умяшалася ў гутарку Аляксандра Скачкова.—Відаць, не будзе толку.

Панкратава і Скачкова пайшлі да брыгадзіра Жыганава і папрасіліся на другую работу. Неўзабаве ў кантору праўлення перайшла комсамолка Лідзія Фралова, якая да гэтага была добрай памочніцай звеннявой.

У комсамольска-маладзёжным звяне засталося ўсяго чацвёра. Ім трэба было даглядаць 6 гектараў кукурузы. А пустазелле, як кажуць, зямлю ірвала, нават нельга было знайсці кукурузных каліў. Некалькі дзён чацвёра ўпартых дзяўчат працавалі ад золаку да змяркання, не разгінаючы спіны, але з праполкай бавіліся і бавіліся. Няўжо загіне кукуруза, няўжо іх клопаты будуць дарэмнымі?

Крывёю аблівалася сэрца звеннявой. Увосень у 1954 годзе на комсамольскім сходзе калгаса абмяркоўвалі пытанне аб расшырэнні пасеваў кукурузы. Комсамольцы пераканаўча гаварылі аб значэнні гэтай культуры для далейшага ўмацавання арцельнай гаспадаркі. Лідзію, як групкомсорга агароднай брыгады, сход рэкамендаваў звеннявой комсамольска-маладзёжнага звяна.

«Ці спраўлюся? — думала Лідзія. — Я-ж нічога не ведаю аб вырошчванні кукурузы». І выказала свае сумненні.

— Справішся, — запэўнілі комсамольцы. — На вывазцы торфу твая група заваявала першынство і пераходны чырвоны сцяг аблвыканкома. І цяпер не падвядзеш.

Лідзія згадзілася. Праўленне калгаса ахвотна прыняло прапанову комсамольцаў. Для арганізацыйнага ўмацавання, гэтак і гаварылі на пасяджэнні праўлення, у звяно паслалі працавітых калгасніц. Усю зіму кожную суботу Лідзія наведвала агратэхнічныя курсы. Днём разам з членамі звяна вывозіла і кампаставала торф з гноем, а вечарамі па рэкамендацыі агранома Сяргея Усцінавіча Кавалеўскага вывучала сельскагаспадарчую літаратуру аб кукурузе. Новая цікавая справа захапіла Лідзію.

Калгас атрымаў машыну для вырабу торфаперагнойных кубікаў. Магутнасць яе — 70 тысяч кубікаў за 8 гадзін. У торфаперагнойных кубіках высаджвалі агародні я культуры. І вось аграном Кавалеўскі параіў ёй хоць-бы на двух гектарах пасадзіць кукурузу ў кубіках.

— Мы атрымаем сваё насенне, — даказваў ён.

У сакавіку яны нарыхтавалі многа кубікаў. Ад трактарыста Леаніда Зузіна Лідзія сама навучылася кіраваць машынай, якая выраб ляе кубікі. Усё ішло добра. На нарадзе комсамольцаў-кукурузаводаў Лідзія выклікала на социялістычнае спаборніцтва звеннявую другога калгаса «Комінтэрн» Нікалаеўскага сельсовета Валянціну Феськову, якая ў 1954 годзе заваявала пераходны чырвоны вымпел абкома комсамола. Тады з трыбуны Лідзія аб'явіла свае абавязацельствы. Яна дала слова вырасціць на 2 гектарах па 30 цэнтнераў сухога зерня і на 4 гектарах — па 45 цэнтнераў пачаткаў у малочна-васкавой спеласці з кожнага гектара. І ў сярэднім атрымаць з гектара па 250 цэнтнераў зялёнай масы. Яна расказала аб ходзе вывазкі ўгнаенняў у звяне, аб вырабу торфаперагнойных гаршочкаў. Аграном абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі, які прысутнічаў на нарадзе, перабіў яе і сказаў, што не трэба мудрагеліць, не трэба вырошчваць кукурузу на зерне, — калі трэба будзе яго завязуць з іншых абласцей. Лідзія не паслухала і зрабіла па-свойму: на двух гектарах высадзіла расаду кукурузы ў торфаперагнойных гаршочках. Пасля гэтага пасадзілі кукурузу квадратна-гнездавым спосабам на астатняй плошчы. За ўзорнае вырошчванне кукурузы звяно было ўзнагароджана граматай ЦК комсамола Беларусі.

І цяпер не стрымаць сваё слова, не апраўдаць высокую ўзнагароду — не, гэтага не магла дапусціць Лідзія. Яна разумела сваю памылку. Расаду кукурузы ў торфаперагнойных кубіках трэба было высаджваць крыху раней. Тады-б не ў адзін час падаспела праполка.

Лідзія звярнулася да агранома Кавалеўскага і старшыні праўлення Сарокіна.

— Арганізуйце людзей, пагутарце з комсамольцамі, можа, хто-небудзь з іх захоча перайсці ў тваё звяно, — параілі яны.

Лідзія пагутарыла з комсамолкамі Альбінай Пшанічнай, Альбінай Шарамецьевай, дзесяцікласніцай Нінай Тыльковай. Яны ахвотна згадзіліся працаваць у звяне. З іх дапамогай хутка прапалолі ўчастак, дзе кукуруза была пасаджана ў торфаперагнойных кубіках, і падкармілі аміячнай селітрай. Але заставалася яшчэ 4 гектары. Вось-вось пустазелле заглушыць пасевы. Усёроўна не справіцца звяну з работай.

— А што, калі мы папросім дырэктара нашай школы, — прапанавала Ніна Тылькова. — Зараз канікулы, шмат вучняў вольных...

Дырэктар Сідаравіцкай сярэдняй школы тав. Громаў уважліва выслухаў просьбу маладых кукурузаводаў, але адказаў не адразу. Дзяўчатам здалося, што ён залішне доўга маўчыць.

— Нам толькі першы раз прапалоць, а потым мы самі справімся, — пераконвала Васюкова.

— Добра, дапаможам, — згадзіўся дырэктар.

Штодня на дапамогу кукурузаводам выходзіла па некалькі дзесяткаў вучняў. Ачышчаны ад пустазелля ўчастак змяніў свой выгляд. Ва ўсе бакі, куды ні паглядзіш, цягнуцца зялёныя радкі кукурузы. Квадраты роўныя-роўныя.

Прарэджванне, падкормка, рыхленне міжраддзяў, новая праполка. Дзень за днём праходзіў у напружанай працы. Кукуруза ўсё вышэй і вышэй ускідвала свае вострыя лісты. Радасна на сэрцы, праца спорыцца, і ніхто не адчувае стомленасці.

Непрыкметна падкралася восень. Агонь яе пажаўціў зялёныя лісты таполяў і бяроз. Прайшла ўборка кукурузы. Падведзены папярэднія вынікі. З двух гектараў кукурузы, пасаджанай ў торфаперагнойных кубіках, атрымана па 50 цэнтнераў сухога зерня. Не горшы ўраджай быў і на астатнім участку. На ім сабрана на 78,5 цэнтнера пачаткаў у малочна-васкавой спеласці і па 360 цэнтнераў зялёнай масы з кожнага гектара. Слова стрымана з гонарам, выпрабаванне вытрымана. Падвёўшы вынікі спаборніцтва, абком комсамола прысудзіў звяну Лідзіі Васюковай пераходны чырвоны вымпел і грашовую прэмію — 1000 рублёў. На з'ездзе комсамола Беларусі яе выбралі членам ЦК ЛКСМБ.



**Маладыя кукурузаводы Ніна Тылькова** (злева) **і Альбіна Пшанічная адбіраюць годнае для пасеву насенне кукурузы.**

Фото Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА).

Аднойчы Тацяна Панкратава затрымала Лідзію.

— Ганарышся, высока галаву задзіраеш, — гаварыла яна. — Пашанцавала табе.

— Як-жа пашанцавала? А чаму вы, цётка Тацяна, нашу працу не ўлічваеце? — адказала Лідзія.

— Год добры выпаў.

— Не, не так, цётка Тацяна. Цяпер мы ведаем. Кукуруза працу любіць, але-ж і добра аплачвае яе. На наступны год не тое будзе. Дарэмна пакінулі звяно.

— Не пераскочыўшы рэчку, кажаш «гоп», — стаяла на сваім Панкратава. — Не хваліся...

— Я не хвалюся, але я ўпэўнена. У нас ужо ёсць вопыт!

...Ласкава свеціць веснавое сонца. З палёў гаманкімі ручаямі збег снег. Ад распаранай зямлі ідзе густы прыемны водыр. Гарачая пара ў калгасе. Упэўнена сустрэла вясну звяно Лідзіі Васюковай. За ім замацаваны ўчастак — 8 гектараў. Зямля добрая. Але члены звяна вывезлі сюды торф і гной.

Кукурузаводы комсамольска-маладзёжнага звяна рыхтуюцца да пасадкі кукурузы ў торфаперагнойных кубіках. Выраблена ўжо каля 200 тысяч кубікаў, у сярэднім будзе высаджана па 42 тыс. каліў расады на гектар. Падрыхтаваны парнікі і насенне, якое старанна захоўвалася ў свірне.

— Пасадка кукурузы ў кубіках расадай мае свае перавагі, — расказвае Лідзія Васюкова.— Мы можам апрацоўваць значна большы ўчастак, і на працягу лета ўвесь час будзем роўнамерна загружаны работай.

Сёлета звяно Лідзіі Васюковай змагаецца за ўраджай на плошчы ў 4 гектара па 55 — 60 цэнтнераў сухога зерня з гектара, і на астатніх 4 гектарах — па 80 цэнтнераў пачаткаў у малочна-васкавой спеласці з гектара і па 400 цэнтнераў зялёнай масы.

І ўжо зараз можна сказаць, што звяно сваё слова стрымае.

**Калгас «Комінтэрн»**
**Слабодскага сельсовета**
**Магілёўскага раёна.**




# Эрнст Тэльман

**(Да 70-годдзя з дня нараджэння)**

**З пісьма таварышу па турэмнаму зняволенню.**

Студзень 1944 года

Мой дарагі таварыш па соцыялістычных пераконаннях, па агульнаму лёсу і па рэволюцыйнай барацьбе!

...Памятай заўсёды, што наша сумленне чыстае, яно нічым не заплямлена ў адносінах да працоўнага нямецкага народа. Яно не абцяжарана ваеннымі злачынствамі, імперыялістычнай грабежніцкай палітыкай, тыраніяй, тэрорам, дыктатурай і гвалтам над сумленнем, ушчамленнем свабоды і дэспатызмам, ілжэсоцыялізмам, фашысцкімі расавымі тэорыямі, філасофстваваннем розенбергаўскага гатунку, фанабэрлівасцю, высокамер'ем, самахвальствам і інш. І мы не можам зачароўвацца гэтым светам і тым больш быць ад яго ў захапленні, а павінны супроцьставіць гэтаму свету мужны і асвяжаючы дух нашых цвёрдых і мэтанакіраваных поглядаў і бязлітасную, рэзкую крытыку.

...Калі ты, пераконаны рэволюцыянер, у 17 год трапіў у змрочныя турэмныя казематы, перад табой ужо тады паўстала ўся жудасць прадстаячага шматгадовага зняволення. Цяпер гэты час, поўны пакут, болю і гора, хутка застанецца ззаду! Нягледзячы на гэтыя доўгія і суровыя гады, ты не зломлены і не пераможаны! Ты даказаў за гэты час сваю вернасць вялікай справе соцыялістычнай будучыні... Ты заставаўся мужным і стойкім у тваіх соцыялістычных пераконаннях, і варта захаплення твая веліч перад тварам цяжкага лёсу ў твае юныя гады.

...Полымя, якое асвятляе нашы сэрцы і напаўняе наш дух, як яркі светач, вядзе нас па палях бітвы нашага жыцця. Цвёрдыя і верныя характарам, упэўненыя ў перамозе, толькі такімі мы зможам павярнуць наш лёс і выканаць наш рэволюцыйны абавязак у той вялікай гістарычнай місіі, якая на нас ускладзена, і дабіцца канчатковай перамогі сапраўднага соцыялізма.

«Я предан этой мысли! Жизни годы
Прошли не даром, ясен предо мной
Конечный вывод мудрости земной:
Лишь тот достоин жизни и свободы,
Кто каждый день за них идет на бой!»
(Гётэ «Фауст».)

З рэволюцыйным прывітаннем твой верны саратнік па барацьбе за соцыялізм і стойкі таварыш па нашаму агульнаму лёсу.

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

## Цеплаход „Аляксандр Матросаў"

Я заўжды шаную геройскую памяць,
Яе не кране небыццё.
Праходзіць герой мой праз снежную замяць —
Легендай у наша жыццё.

Яшчэ з аўтаматам у снежнай пасцелі
Ляжыць на сіберным вятры,
Свінцовыя кружаць над полем мяцелі,
Свет белы пажарам гарыць.
Варожыя доты грукочуць з адкоса
І сыплюцца кулі, як град...
Ды смела паўзе Аляксандр Матросаў,
Каб выканаць сэрца загад.

Сабой засланіў ён ад лютае смерці
Сваіх аднагодкаў-сяброў...
Вякам гэта імя з граніта не сцерці,
Дажджамі не змыць яго кроў.

Крылатая слава, як памяць народа,
Яе не кране небыццё;
Заводам і шахтам, гудком цеплахода
У наша ўвайшоў ён жыццё...

Павольна мінуўшы пясчаныя плёсы
І рэжучы хвалю плячом,
Да прыстані плаўна падходзіць «Матросаў»
Такім-жа, як быў, юнаком.
Нясе Енісей свае быстрыя воды
Між шумных крутых берагоў,
Вітанне «Матросаву» шлюць параходы
Нявёлаю песняй гудкоў.

Прыплыўшы да хваль акіянскага вала,
Зваротны трымае ён курс.
Сядзяць у цудоўных асветленых залах
Эвенк, эскімос і тунгус.

На палубе чуецца спеў шматгалосы,
А песня ўзлятае, як птах.
І золатам слаўнае імя «Матросаў»,
Як сонца, гарыць на бартах.

Жывая легенда не мае спачыну,
Ёй, вольнай, няма берагоў...
Вялікая нашая маці-Айчына
Навек праслаўляе сыноў.

Кастусь ЦВІРКА

## Калі-б не яна...

Гляджу я у вочы яе дарагія,
У іх, у блакітных, не бачу і дна.
Ці-ж гэтак любіў-бы каго у жыцці я,
Калі-б не яна?

Іду я палямі. Жаўрук у аблоках
І сонца — у кожнай расінцы ў ільнах.
Ці-ж бачыў-бы я, як цудоўна навокал,
Калі-б не яна?

Прайшоў я вайну ўсю. У бой рукапашны
Я першым кідаўся і ворага гнаў.
Ці-ж так-бы хадзіў я ў атаку бясстрашна,
Калі-б не яна?

Ляжаў у крыві я ў санбаце пры смерці,
Ды ўспомніў яе — скрозь звінела вясна...
Дык хіба-ж я жыў-бы сягоння на свеце,
Калі-б не яна?

## Ручай

З узгор'я няспынна
Ручай па камені
Ляціць, бы лавіна,
У пырсках і пене.

А вербы і клёны,
Пастаўшы ля краю,
Яго у зялёны
Вянок уплятаюць.

Ды, грозны, ён глебу
Ірве ім з-пад корняў.
Зацішша не трэба
Такім, непакорным.

Пастаў яму скалы
У плыні — здаецца,
І тут бурнай хваляй
Ён, вольны, праб'ецца.

Яго не стрымаеш,
Ён знае, ён чуе:
Стыхія марская
За даллю бушуе!

# Выпрабавальнікі матораў

Юлія КАНЭ



Тэхнік-выпрабавальнік Пятро Корань (справа) і кантралёр Уладзімір Бальшакоў за выпрабаваннем рухавіка.

Той, хто быў на вялікім заводзе, памятае, якім гулам напоўнена ўсё навокал: шум станкоў, гудзенне электрапечаў, грукат молатаў — усё зліваецца ў своеасаблівую працоўную музыку. Здаецца, што стаіць строгая панурая цішыня толькі ў заводскай лабараторыі. Але ці заўсёды гэта так?

... Рад вялізных, на два паверхі дзвярэй. Акуратныя таблічкі — срэбныя літары на чорным фоне. Зойдзем праз адны з гэтых дзвярэй-варот у пакой. Тут працуе магутны рухавік, гул якога рэдка калі ўдаецца чуць у «чыстым» выглядзе. Звычайна матор схаваны ўнутры машыны, а тут ён увесь, як ёсць, адкрыты, на стэндзе, адсвечвае сваім срэбным целам.

У пакоі трое хлопцаў пільна сочаць за работай рухавіка: адзін, у матроскай цяльняшцы, схіліўся, услухоўваючыся ў гул рухавіка, другі, таксама ў цяльняшцы, — каля пульта прыбораў, трэці — каля шафы з бліскучымі штурвальчыкамі. Тут няма нічога лішняга. Зіхаціць плітачная падлога, зіхаціць металічная аснова стэнда. Чысціня, як на караблі.

Пакой, дзе мы знаходзімся, незвычайна прасторны, высокі, з акном амаль на ўсю сцяну. Гэта бокс № 4 лабараторыі рухавікоў Мінскага аўтазавода. Боксам прынята называць усякае ізаляванае памяшканне.

Бокс у лабараторыі рухавікоў — адна з яе ячэек, якая зусім адгароджана ад іншых гуканепранікальнымі сценамі.

У такіх-жа пакоях-ячэйках злева і справа ідзе свая работа, і суседзі не павінны перашкаджаць адзін другому.

Гаспадары бокса № 4 кантралёры-выпрабавальнікі Уладзімір Бальшакоў, Уладзімір Мардковіч і тэхнік-выпрабавальнік Пятро Корань толькі што закончылі зборку рухавіка і цяпер з хваляваннем назіраюць за яго работай. Колькі разоў ім даводзілася разбіраць і зноў збіраць гэты дызель, але неспакой не пакідае іх — ад такога складанага механізма ўсяго можна чакаць. Так, іх працу сёння, безумоўна, не зраўняеш з той, якую рабілі яны тут яшчэ год таму назад.

Тады выпрабавальнікі займаліся толькі праверкай яраслаўскіх дызеляў, якімі забяспечваюцца мінскія аўтамабілі. Прыбудзе, бывала, партыя рухавікоў з Яраслаўля, іх адзін за другім хутка паставяць на стэнды, праверацъ і адправяць у зборачны цэх. Гэта было не выпрабоўванне, а звычайная дадатковая праверка работы яраслаўскіх працаўнікоў. Часцей за ўсё ніякіх дэфектаў не знаходзілася — людзі на Яраслаўскім заводзе вопытныя і АТК не дае сваю справу. Тады і сама лабараторыя на Мінскім заводзе была інакшай — не было гэтых высокіх пяці боксаў, не было і такога, як цяпер, абсталявання.

Але вось перад мінскімі аўтамабілебудаўнікамі паўстала задача — стварыць свой, новы рухавік. Стодзесяцісільны «ЯАЗ-204» ужо вычарпаў сябе, як кажуць, састарыўся. Яго паказчыкі не задавальняюць тым патрабаванням, што прад'яўляюцца сёння да магутных аўтамашын, якія выпускае Мінскі аўтазавод. Новым машынам патрэбна і новае, моцнае сэрца. Апроч таго, завозіць рухавікі з Яраслаўля — дорага і нязручна. Таму і спатрэбілася новая лабараторыя рухавікоў, такая, дзе можна было-б весці сур'ёзную выпрабавальную работу.

У заводскай эксперыментальнай лабараторыі выпрабоўваюцца доследныя ўзоры будучай прадукцыі. Тут першыя задумы канструктараў ператвараюцца ў метал, тут яны правяраюцца, дапрацоўваюцца. Амаль з першых крокаў нараджэння новай машыны выпрабавальнік ідзе побач з канструктарам, як яго бліжэйшы памочнік і дарадчык.

Канструяванне і вытворчасць рухавікоў унутранага згарання, у прыватнасці дызельных рухавікоў, — складаная і параўнаўча маладая галіна машынабудавання. У нас, у Беларусі, да гэтага часу зусім не выпускалі рухавікоў унутранага згарання.

Перад аўтазаводскімі канструктарамі-дызелістамі былі пастаўлены сур'ёзныя задачы. Новы рухавік па ўсіх паказчыках і якасцях павінен быць лепшым за «ЯАЗ-204»: гэта значыць, быць больш магутным, эканамічным, лягчэйшым і больш зручным. Новы рухавік павінен быць на ўзроўні лепшых узораў сучаснага дызельбудавання.

Калектыў, якому было даручана гэтае адказнае заданне, на першым часе быў невялікі. Большасць яго — моладзь, для якой гэта была першая самастойная работа. Аднак у новай лабараторыі знайшліся і свае вопытныя, умелыя выпрабавальнікі, якія выдатна ведаюць дызель. Сярод іх — Уладзімір Бальшакоў, Пятро Корань і Уладзімір Мардковіч. Гэта людзі, для якіх дызелі — сапраўднае прызванне і справа жыцця.

Скажам, той-жа Пятро Корань. Яшчэ вясковым хлапчуком ён палюбіў машыны. І не выпадкова, што, скончыўшы сямігодку, ён паступіў у аўтамеханічны тэхнікум. Так атрымалася, што і на вайсковай службе Пятро прадаўжаў вывучаць матopы. Скончыў вайсковую службу ўжо механікам звяна тарпедных кацераў. Прышоўшы на аўтазавод, хлопец узяўся за любімую справу. Калі загаварылі пра тое, каго вылучыць кіраўніком бокса па выпрабаванню новага рухавіка, аказалася, што лепшай кандыдатуры, як Пятро Корань, і не трэба!

Кантралёры-выпрабавальнікі падабраліся вартыя свайго кіраўніка. Уладзімір Мардковіч таксама служыў у флоце, таксама скончыў курсы дызелістаў, а Уладзімір Бальшакоў — адменны шафёр. Хлопцы хутка здружыліся. І калі глядзіш, як завіхаецца трое маладых сяброў, якія разумеюць адзін другога з поўслова, адразу скажаш: гэта — калектыў!

Выпрабавальнікі самі ўдзельнічалі ў стварэнні новай лабараторыі, узводзілі сцены пакояў-боксаў, мантыравалі абсталяванне,

Тэхнік-выпрабавальнік Пятро Корань ля дынамаметрычных вагаў.
Фота С. Чырэшкіна.



самі зрабілі аснастку для выпрабавання рухавіка.

Напярэдадні святкавання 1 Мая 1955 года дызель «МАЗ-500» № 1 быў пастаўлены на стэнд. Неўзабаве ў журнале выпрабаванняў, які Пятро Корань назваў вахценным, з'явіліся першыя запісы.

«... 28 красавіка. Хвалюючая мінута першага запуску рухавіка. Халодная абкатка. Спачатку без вады — усяго толькі на працягу адной мінуты. Потым — запуск рухавіка з вадзяным ахаладжаннем. Заўважан першы дэфект — дэфект вырабу — пропуск вады ў галоўцы рухавіка.

29 красавіка. Рухавік працаваў на 800 абаротах у мінуту на працягу адной гадзіны. Ціск масла ў кг/см² у пачатку работы — 8, у канцы — 15. Тэмпература масла па Цэльсію ў пачатку работы +15, у канцы +65. Заўважана моцнае падцяканне масла пад кранштэйн фільтра грубай ачысткі».

Для пабочнага назіральніка — гэта толькі сціплыя пратакольныя запісы. Для саміх-жа выпрабавальнікаў — гэта дні напружанай працы. Вядома, выпрабавальнікі працуюць згодна загадзя распрацаванага плана і методыкі. Але ці можна планам прадугледзець усе нечаканасці, якія могуць сустрэцца на няходжаных сцежках?

У час халоднай абкаткі выпрабавальнікі правяралі, як працуе масляная сістэма, ці добра прыцерліся клапаны. Потым пачалі рыхтавацца да гарачай абкаткі — ужо з палівам. Падкруцілі, падагналі ўсе дэталі і раптам заўважылі першы канструктарскі дэфект: штангі штурхальнікаў аказаліся кароткімі і дрэнна забяспечвалі рэгуліроўку — гайкі завінчваліся на рэгуліровачныя балты ўсяго на два-тры віткі. Гэта пагражала-б аварыяй. Зрабілі новыя рэгуліровачныя балты.

Прыступілі да гарачай абкаткі. На другі дзень у рухавіку з'явіўся металічны стук. Выявілася, што пагнулася штанга ўсасваючага клапана аднаго з цыліндраў. Але больш за ўсё выпрабавальнікаў непакоіла тое, што першы дызель прапускаў ваду — «плакаў». Гэта была віна ліцейшчыкаў, якія зрабілі нядобраякасныя адліўкі. І неўзабаве, як зазначана ў «вахценным» журнале, «з прычыны вялікага працякання вады рухавік «МАЗ-500» № 1 быў зняты са стэнда».

Праз некаторы час быў сабраны і пастаўлены на стэнд другі рухавік, і работа пачалася спачатку: халодная, гарачая абкаткі, абкатка пад нагрузкай. Але ўсе гэтыя этапы былі толькі падрыхтоўкай да асноўнага — зняцця скораснай характарыстыкі рухавіка, якая выяўляе яго якасці, і дадатковых работ, у працэсе якіх канструктары і выпрабавальнікі павінны выявіць патрэбныя паказчыкі рухавіка.

Скорасная характарыстыка рухавіка — гэта графікі, што паказваюць, як са змяненнем ліку абаротаў рухавіка змяняецца яго магутнасць, расход гаручага. Каб зрабіць скорасную характарыстыку, выпрабавальнікі назіраюць за тэмпературай вады і масла ў картэры, ціскам масла і паліва ў галоўцы паліўнай помпы, колерам выхлапных газаў, вымяраюць лік абаротаў рухавіка, магутнасць, вызначаюць колькасць расходу гаручага за пэўны час. Пры гэтым вызначаецца эканамічнасць рухавіка — удзельная вага расходу паліва на адну конскую сілу.

Магутнасць рухавіка была вызначана з самага пачатку, яна была недалёкай ад праектнай. З вызначэннем яго эканамічнасці справа абстаяла горш. За змяншэнне ўдзельнага расходу паліва прышлося змагацца ўпарта. Змагаліся за змяншэнне кожнага лішняга грама.

Пошукі ішлі па некалькіх шляхах адразу. Канструктары прымянілі ў рухавіку віхравую камеру згарання. Уласцівасці і асаблівасці віхравой камеры згарання яшчэ недастаткова даследаваны. Ад так званай устаўкі ў віхравой камеры залежыць, як хутка будзе згараць паліва, а значыць, залежыць і ўдзельная вага яго. Канструктары і эксперыментальшчыкі нястомна змянялі ўстаўкі, адшукваючы тую адзіную, якая дасць найлепшы эфект.

А за сцяной, у суседнім боксе, адпрацоўвалі рабочы працэс на аднацыліндровай установцы (дызель «МАЗ-500» шасціцыліндровы) і сваё вынікі перадавалі ў бокс № 4.

Выпрабавальнікі пасля доўгіх эксперыментаў прышлі да вываду: паліва з фарсункі ў камеру згарання патрэбна падаваць не пад вуглом 30 градусаў, як запраектавана канструктарамі, а пад вуглом 60 градусаў. Зрабілі новыя фарсункі, і ўдзельная вага расходу паліва адразу зменшылася. Гэта была сапраўдная перамога.

Пра добрых працаўнікоў кажуць: умелыя рукі. У выпрабавальнікаў з бокса № 4 не толькі рукі ўмелыя, але і вока пільнае, вуха чулае. Як урач, выслухаўшы хворага, вызначае хваробу, так выпрабавальнік беспамылкова выяўляе недахопы ў дызелі па характару яго шумаў. Вось прыбор, які нагадвае медыцынскі стэтаскоп, — толькі ён металічны і з большай трубачкай. Ім аслухоўваецца рухавік. Але вуха эксперыментальшчыка настолькі натрэніравана, што адрознівае характар шумаў і без дапамогі прыбораў.

Данёсся звонкі металічны стук. Гэта стукаюць паршнявыя пальцы, скажа выпрабавальнік. А калі стук нагадвае далёкія ўдары ма-

# АБЖЫТАЯ ЦАЛІНА

Фотарэпартаж В. ПАНАМАРОВА



Сакратар комсамольскай арганізацыі Іван Бойка (справа) і трактарыст-комсамолец Міхаіл Бурнакоў атрымалі свежую пошту.



Комсамолка Галіна Кавальчук.



Тацяна Зуева прыехала ў соўгас з вёскі Астанеўцы, што на Маладзечаншчыне. Яна — лепшая работніца соўгаса.

**У чужым далёкім краі асабліва прыемна сустрэць сваіх землякоў, пачуць роднае слова. Вось чаму, калі мы прыехалі ў далёкую Паўладарскую вобласць, у цалінны соўгас імя XIX партыйнага з'езда, першым нашым запытаннем было:**

**— Скажыце, калі ласка, ці ёсць у вас тут беларусы?**

**Комсорг соўгаса Іван Бойка неяк збянтэжыўся ад нечаканасці нашага запытання. Яму, відаць, няёмка было, што ён дагэтуль не выбраў нават часу пацікавіцца ў сваіх комсамольцаў: хто адкуль? Аднак «памылка» хутка была выпраўлена. Мы нават не заўважылі, калі і каго паслаў Бойка, але праз невялікі час у пакой зайшла дзяўчына. Яна сарамліва спытала:**

**— Хто тут мяне выклікаў?**

**Мы не ведалі, хто і навошта выклікаў дзяўчыну. Адзін, мусіць, Бойка толькі і ведаў, бо ён адразу-ж спытаў у дзяўчыны:**

**— Кажуць, вы з Беларусі?**

**— Так, з Беларусі, — шустра адказала дзяўчына, — а што, калі з Беларусі?**

**— Дык от землякі вашы прыехалі...**

**Дзяўчына спачатку збянтэжылася, а потым ледзь не з радаснымі абдымкамі кінулася да нас:**

**— Так, я з Беларусі, з Браслаўшчыны — гэта, калі ведаеце, на Ма-**



ладзечаншчыне. І далей Тацяна Зуева коратка расказала нам гісторыю таго, як яна апынулася ў Казахстане.

Тацяніна маці памерла яшчэ да вайны, а бацька загінуў ад фашысцкай кулі. Жыццёвая дарога Тацяны была пакручастая і, трэба сказаць, цяжкая. Яны з меншай сястрой Зояй у першыя гады пасля вайны кідаліся ва ўсе бакі, потым Тацяна працавала на будоўлі.

— І толькі нарэшце, — гаворыць Тацяна, — мы з Зояй знайшлі сваё сапраўднае месца ў жыцці.

Тацяна зірнула ў акно і ўжо з гонарам і за сябе, і за сваіх новых сябровак, і за гэты край, які стаў ёй родным, сказала:

— Гэта-ж, зірніце, які абсяг, што ні вокам не акінеш, ні конна не аб'едзеш. Дваццаць тры тысячы гектараў за гэтыя гады абжылі. Гэта вам не жарты.

Калі ўсё было расказана, перагаворана, мы выйшлі з памяшкання, каб пагледзець пасёлак і ўсё тое, што нажылі цаліннікі. Па дарозе да нас далучылася прыгожая смуглявая дзяўчына.

— Гэта мая сяброўка, — прадставіла нам Тацяна дзяўчыну, — Галіна Кавальчук... Яна сама з Украіны. А спявае як! Мы яе артысткай завем. Яна-такі сапраўдная артыстка. Ёй мо' трэба было ў Вялікі тэатр ісці, а не на цаліну, — пажартавала Тацяна.

— Ты ўжо скажаш, — засаромелася Галіна, — нам з табою і тут добра, — сказала з выразна украінскім вымаўленнем Галіна Кавальчук.

Хоць было яшчэ халаднавата, ішлі мы вельмі павольнай хадою. Хацелася ўсё пабачыць сваімі вачыма. Простая, як напятая струна, вуліца, паабапал яе новыя дамы-катэджы. Яны падобныя адзін на другі і ў той-жа час у кожнага з іх ёсць сваё аблічча. Ды гэта і не дзіва — у кожным-жа дамку-катэджы жывуць людзі з рознымі запатрабаваннямі, з рознымі густамі, і кожны пад свой густ прыбраў фіранкамі вокны, аздобіў пакоі, і нават знадворку відаць гэтая featураслайнасць чалавечых густаў.

— Мы тут, калі праўду вам казаць, дык і цяжкага сербанулі, — сказала Тацяна Зуева і паказала рукой на водшыб ад пасёлка, дзе ў снезе віднеліся, як копы заплесневелага, непрыбранага ў час сена, палаткі. — Гэта нашы тыя палаткі, у якіх мы жылі, як папрыязджалі сюды. Цяпер у тых палатках ляжыць розная непатрэбшчына ды ўлетку іх вывозім у стэп, на «дачу» ў палявыя станы.

Непрыкметна да нас далучыўся яшчэ адзін чалавек, з выгляду інтэлігентнай працы. І комсорг Іван Бойка, які дагэтуль ішоў моўчкі, відаць, не хочучы перабіваць гаворкі землякоў, адразу неяк ажывіўся і жартоўным тонам прадставіў нам падыйшоўшага:

— А гэта наша ахова здароўя Барыс Фінгераў. З цёплых краёў — з Вінніцкага інстытута сюды прыляцеў, галубок.

Далей ужо сам Барыс загаварыў:

— Хворых у нас тут не вельмі завозна. Адно вось толькі маладзіцы не даюць збыту. Гэта-ж не жартачкі — за адзін год каля сотні новых цаліннікаў прыняў.

— Няхай на здароўечка родзяцца, — уставіў сваё Іван Бойка. — Гэта ўжо нашы карэнныя цаліннікі...

Можна-б яшчэ шмат пра што расказаць: хоць-бы пра тое, як у першы час нехапала вады. А трэба-ж было развіваць жывёлагадоўлю, паліўное агародніцтва. На гэтых-жа землях добра растуць і бульба, і кавуны, і яшчэ сёе-тое. Дык, значыць, трэба было падумаць аб вадаправодзе. І навасёлы падумалі: яны прасвідравалі ўжо шчыліну глыбінёю больш за тысячу метраў.

Аднак самае вялікае багацце цаліннага соўгаса — гэта людзі з маладымі, гарачымі сэрцамі, з добрым норавам, напорыстыя ў працы, вясёлыя ў песні. Нам надоўга запомнілася лірычная песня, складзеная трактарыстам Мікалаем Нікішыным і прычэпшчыцай Раісай Зотавай:

Светят звёзды яркие,
На сердце волнение:
Огонька два жаркие
Разожгли сомнение.

Раньше мне не думалось,
Прежде не гадалось...
Что же с моим сердцем
С этой встречи сталось?

Мы здагадваемся, што сталася з сэрцам пасля сустрэчы. На абжытай казахстанскай цаліне ўсё ўвайшло ў вялікае рэчышча жыцця.



У соўгасе будзе свой артэзіянскі калодзеж. Яго будуюць майстар Н. Фофанаў, інжынер М. Маратканаў і рабочы В. Бахараў.



Цэнтральная сядзіба соўгаса.

латочка па жалезу, значыць, стукаюць шатунныя падшыпнікі. Дотыкам далоні вызначаецца ступень нагрэву рухавіка. Па колеру выхлапнога газу выяўляюцца прычыны, якія выклікаюць дым. Ужо здаецца, што перамога блізкая, але раптам выяўляецца, што не заўважылі якую-небудзь дробязь, і выпрабаванне пачынаецца зноў.

...Звычайна Пятро Корань не часта прыходзіў у канструктарскі аддзел. І раптам ён прыбег да канструктараў.

— Здарылася нечаканасць — расплавіліся падшыпнікі.

— Чаму?

— Адразу выявіць не ўдалося.

Калі-ж замянілі падшыпнікі, выявілася, што трэба мяняць паршнявыя кольцы — спала ступень сціскання. А гэта значыць — зменшылася магутнасць, павялічыўся расход паліва. Справіліся з гэтым, выявілася, што няма патрэбнага ціску ў маслянай помпе.

Помпай займаліся і раней. Як быццам-бы ўсё ў парадку — дамагліся патрэбнага выніку. Што-ж здарылася? Выпрабавальнікі вырашылі дзейнічаць самастойна.

— Падключыце манометр да маслянай магістралі, — распараджаецца Пятро.

У магістралі ціск некалькі павялічваецца, але зноў-жа недастатковы.

— Давайце прагонім масла адпрасовачнай помпай, — прапанаваў Уладзімір Мардковіч.

Пампавалі па чарзе. Так, недзе праходзіць паветра — прабіта магістраль. Аказваецца, вось куды працякала масла, замест таго, каб ісці ў падшыпнікі...

— Дарэмна вы так засмучаецеся, — сказаў кіраўнік дызелістаў канструктар Георгі Дзмітравіч Чарнышоў. — Ведаеце, колькі год амерыканцы займаліся стэндавымі выпрабаваннямі і прыгонкай свайго дызеля «Джэймсі»? Пяць год. А вы хочаце ўсё зрабіць за паўгода.

Нарэшце, усе няспраўнасці выяўлены і ліквідаваны. Цяпер — абкатка і зноў зняцце скорасная характарыстыкі. Блішчыць штурвальчыкамі шафа электрычнага кіравання.

Пятро бярэцца за выключальнікі. Запальваюцца чырвоныя і белыя лямпачкі. Запрацаваў электрагенератар, ад якога прыводзіцца ў рух дызель, задрыжалі стрэлкі дынамаметрычнага гадзінніка, які вымярае велічыню нагрузкі, загудзеў дызель. Спачатку адрывіста, потым усё больш роўна і гулка.

Размаўляць у такім гуле нельга. Уладзімір Мардковіч урачыстым позіркам паказвае на стрэлку манометра: ціск больш трох атмасфер. Якраз такі, які трэба!

Выпрабавальнікі матораў працуюць, не заўважаючы часу. Вось і сёння не прыкмецілі яны, як засінелася вялізнае акно пакоя, як прагуў гудок. Вяртаюцца яны дамоў па прыціхшых заводскіх вуліцах стомленыя, але задаволеныя. Добра, калі праца табе па душы, калі ты не забываеш аб ёй і за варотамі завода.

Заўтра зноў з гудком выпрабавальнікі бяруцца за сваю справу. Выпрабаванне прадаўжаецца.

# НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ

**Уладзімір ШАХАВЕЦ**

**Урывак з аповесці «Пасля вяселля»**

Сваю службу ў арміі Андрэй Былінскі адбыў у аўтачасцях. Трапіўшы амаль з першых дзён у рамонтныя майстэрні, ён хутка асвоіўся з новым жыццём — яно мала чым адрознівалася ад яго кароткага прабывання ў МТС ды і ад вучобы ў рамесным. Спецыяльнасць токара прыйшлася тут вельмі дарэчы. Андрэю не трэба было рабіць першых крокаў на новай рабоце, перавучвацца, заставалася толькі ўдасканальваць кваліфікацыю.

Калі Андрэй займаўся ў рамесным вучылішчы, там доўгі час лічылі, што ён не любіць станкоў і машын, бо заўсёды быў незадаволены імі. Пазней высветлілася, што ішло ўсё гэта ў Андрэя не ад нялюбасці да тэхнікі. У яго вельмі рана выпрацаваўся крытычны падыход да машын, так неабходны канструктару або рацыяналізатару. Праўда, гэтыя яго здольнасці не паспелі добра выявіцца ў вучылішчы, не было часу разгарнуцца Андрэю і ў МТС.

У арміі да яго прыйшла сапраўдная сталасць. Ён не толькі ўзмужнеў з выгляду, стаў больш разважлівы і спакойны, у ім акрэпла і смеласць. На другім годзе службы была прынята андрэева першая рацыяналізатарская прапанова. Пасля ён атрымліваў за іх удзячнасці ад камандавання і прэміі. Быў ён на добрым рахунку, меў у майстэрні свой куток, карыстаўся больш, чым іншыя, свабодай.

З лёгкім сэрцам ішоў ён у армію, без вялікага смутку, дэмабілізаваўшыся, расстаўся з ёю, упэўнены ў сваёй будучыні.

У МТС Андрэй не вярнуўся. Яму здавалася, што ён перарос яе, там не будзе дзе і размахнуцца.

Лепш за ўсё Андрэй адчуваў-бы сябе на рамонтным заводзе. Але, што ні кажы, а надакучае мецъ справу з машынамі-інвалідамі. Так і ўрачу, відаць, прыемна кампанія здаровых людзей. Доўга не раздумваючы, Андрэй пайшоў на аўтазавод.

Завод і жылы гарадок пры ім здзівілі Андрэя сваімі маштабамі, яны прыйшліся хлопцу па сэрцу. Вуліцы былі новыя, прамыя і чыстыя, багатыя зелянінай, цяпер ужо крыху пазалочанай восенню. Шкляныя дахі карпусоў рабілі іх лёгкімі, але ад гэтага яны не былі менш велічнымі.

Доўга прасіцца на завод Андрэю не прыйшлося. На кваліфікаваных рабочых тут быў вялікі попыт.

Пра інтэрнат, сваё часовае жыллё, Андрэй таксама не мог сказаць нічога благога. Пакой быў на чатыры ложкі, не цесны і не пусты, якраз такі, каб адчуваць сябе ў ім утульна. Калі пасля змены прыйшлі хлопцы, што жылі ў гэтым пакоі, Андрэй пазнаёміўся з імі хутка. Адзін з іх — Пятро Завадзька — таксама ўжо адслужыў у арміі; побач з яго ложкам Андрэй і паставіў свой ложак. Два другія хлопцы былі яшчэ дапрызыўнікі.

Андрэю належаў месячны адпачынак. Правамі сваімі карыстацца ён умеў і тут не выпусціў-бы іх з рук, калі-б толькі быў дома. Сядзець-жа без работы ў заводскім інтэрнаце было неяк нялоўка. Ды, акрамя таго, блізка не было знаёмых, а калі ты нічога не робіш адзін — гэта не адпачынак.

Андрэй пахадзіў дзень па гарадку, напісаў сваім армейскім сябрам пісьмы, вечарам наведаўся ў кіно, а назаўтра пашоў у цэх.

Знутры цэх робіць заўсёды большае ўражанне, чым калі глядзіш на яго корпус. Андрэй быў не навічок, якога аглушае шум станкоў і палохае іх кольказь, але і ён пры ўваходзе ў цэх на момант спыніўся, і ў гэтым было крыху разгубленасці. Толькі падышоўшы да станка, які з сённяшняга дня быў яго станком, Андрэй павесялеў, — так бывае, калі сустракаешся са сваім старым знаёмым.

Пра франтавікоў, якія вярнуліся да мірнага жыцця, гаварылі, што іх рукі засумавалі па працы. Пра Андрэя гэтага нельга было сказаць, ён проста працягваў пачатую, здаецца толькі ўчора, работу, і ў гэтым працягу была свая асалода.

Працавалася з ахвотай, але станок нешта капрызнічаў, і ад гэтага Андрэй хутка стаміўся. Потым зламаўся разец, Андрэю зрабілася сорамна за сваю нялоўкасць, а калі скрышыўся і другі — ён узлаваўся. Злосць — невялікі памочнік у працы. Так да канца змены Андрэй і не мог настроіцца. Першы блін, як кажуць, выйшаў комам.

Не паспеў яшчэ Андрэй пачаць свой другі рабочы дзень, як да яго падышоў майстар. Нічога не кажучы хлопцу аб тым, што ён не спраўдзіў яго спадзяванняў, майстар пачаў тлумачыць, што трэба рабіць, каб станок быў паслухмяным.

«Ну, ну, тлумач, — сказаў сам сабе Андрэй. — Быццам для мяне гэта нейкае заморскае дзіва». Майстра ён не слухаў. Станок Андрэю быў добра вядомы, і калі ён не здолеў адразу прымусіць яго верна служыць, то была тут нейкая іншая прычына. Прычыны гэтай Андрэй знайсці не мог і супакоіўся на тым, што не сёння дык заўтра прыдзе да яго той добры рабочы настрой, калі ўсё будзе само аж гарэць у руках.

Мала чым лепш ладзілася праца і ў наступныя дні.

Аб кепскай рабоце Андрэя было далажана начальніку цэха Сцяпану Пракопавічу Анісімаву. Начальніка цэха, дабрадушнага больш з твару, чым па характару, гэта аднак зусім не ўстрывожыла. Ён па вопыту сваёй шматгадовай работы ведаў, што навічкі пачынаюць добра працаваць не адразу. Што-б ні думаў аб сабе Андрэй, а ён таксама навічок. Усё будзе ў парадку.

У адну са змен, — гэта было на другім тыдні яго работы на заводзе, — Андрэй раптам зразумеў, што ва ўсім вінаваты не ён сам, а станок. Што ў ім было не такое, як трэба, мацаванне, абароты ці што-небудзь іншае ў яго канструкцыі, або прычынай тут былі разцы,—на гэтыя пытанні нельга было адказаць адразу. Андрэй пачаў прыглядацца да станка больш, чым працаваць на ім. Выпрацоўка, якая было ўжо наблізілася да нормы, рэзка ўпала. Ды Андрэя цяпер і не займала яна. Той грудок дэталей, які называўся нормай, ён мог, паднаціснуўшы, выдаваць і зараз, але вельмі-ж ужо невысокім быў гэты грудок. У Андрэі прачнуўся рацыяналізатар.

Майстар злаваўся на такую андрэеву работу. Ды і начальніка цэха Сцяпана Пракопавіча пачалі ўжо турбаваць нелады ў Былінскага. Андрэй адчуваў, што ім незадаволены старэйшыя, ад яго не маглі схавацца кплівыя ўсмешкі таварышаў па рабоце. Так нічога добрага не выйдзе. Андрэй, мала спадзеючыся на поспех, адважыўся звярнуцца да Анісімава з просьбай.

— Мне невялічкі-б куточак у цэху ды такі станок, як мой. Ёсць у мяне падазронасць, што не ўсё ладна ў яго канструкцыі. Варта было-б тое-сёе змяніць. Думаю, што на гэта не пойдзе шмат часу, а карысць атрымаецца немалая. — Пачаўшы гаварыць з апушчаным уніз позіркам, Андрэй глядзеў цяпер у вочы Сцяпану Пракопавічу. — Можаце спадзявацца, што не падвяду, — закончыў ён.

Бываюць такія нечаканыя і дзіўныя просьбы, што сказаць у адказ на іх рашучае «не»! — гэтага яшчэ мала. Сцяпан Пракопавіч пагладзіў сваю лысую галаву, памаўчаў трохі і тонам, які не павінен выклікаць пярэчанняў, сказаў:

— Станок новы, канструкцыя яго апошняя, няма чаго стукацца ў адчыненыя дзверы.

— Калі-б ён быў стары, — не зважаючы на катэгарычны тон, запярэчыў Андрэй, — у яго была-б адна дарога: адпрацаваў сваё — і на пераплаўку. Гэта добра, што новы. Над такім і ахвота падумаць.

— Трэба спярша навучыцца працаваць, а потым ужо думаць... Пакажы свае рукі.

Андрэй міжвольна выканаў яго загад.

— Што-ж, мазалі такія, як і ва ўсіх, а рукі—не тыя.

Такі паварот размовы крыху збянтэжыў Андрэя, але адступаць ён не збіраўся.

— Калі вы не верыце ў мяне, я вам прынясу свае характарыстыкі. Пабачыце, колькі я зрабіў чаго ў арміі. Мне не ўпершыню займацца вынаходствам і рацыяналізацыяй.

— Характарыстыкі — гэта адно, а цяперашняя работа — другое. Былыя заслугі прымаюцца ў разлік толькі тады, калі ёсць новыя. Папрацуй, папрацуй, а то не пераступіў яшчэ парогу, а ўжо на покут.

— Не ўсім з аднаго трэба пачынаць... Ды што вы мяне нейкім навічком лічыце,—узгарэўся Андрэй.

Мал. Г. Паплаўскага.



Калі-б гэта было месяц таму назад, Сцяпан Пракопавіч гаварыў-бы з Былінскім больш лагодна — тады ў цэху было вальней. Цяпер-жа план выконваўся дрэнна, а тут паступіў яшчэ новы тэрміновы заказ — цэх працаваў напружана. Успомніўшы аб гэтым заказе, Сцяпан Пракопавіч, каб скончыць размову, сказаў рэзка:

— Што ты, хлопец, з глузду з'ехаў? На станок паменшыць цэх!

— Відаць, не да таго я звярнуўся з просьбай, — расчаравана сказаў Андрэй.

— Ды ты хоць-бы і ў самога бога прасіў аб гэтым, вынік быў-бы адзін і той-жа.

Дабыўшы змену, Андрэй без асаблівага апетыту паабедаў у сталоўцы, прыйшоў у інтэрнат. Не, ён не кінуўся ў рабочым адзенні на засланы ложак — да гэтага яшчэ не дайшло,— але ў пакоі быць не хацелася. Андрэй прагледзеў загалоўкі ў газеце і сабраўся ісці.

— Куды ты? — запытаўся Коля Скачок, самы меншы з хлопцаў. Ен быў і маладзейшы за ўсіх, таму найбольш цікаўны.

— Ды вось прайдуся трохі, — адказаў Андрэй. — Нешта не хочацца сядзець дома.

Размова са Сцяпанам Пракопавічам адбывалася ў цэху, хлопцы яе чулі і таму здагадваліся, што творыцца ў душы Андрэя. Пакідаць чалавека аднаго з яго невясёлымі думкамі — гэта не па-сяброўску.

— Так, бадай, варта прайсціся. Надвор'е цудоўнае, — сказаў Пятро Завадзька, пагледзеўшы ў акно. — А вы, хлопцы?

Міхась Старавойтаў, так звалі трэцяга з хлопцаў, што жылі ў гэтым пакоі, ахвотна згадзіўся з такой прапановай. Ён наогул быў дружбацкі хлопец і за кампанію гатовы быў аддаць усё. Коля таксама накінуў на плечы пінжак.

Прыгожай бывае восень на ўлонні прыроды, нездарма яе завуць залатой. Хай сабе адкрасавалі травы ў лугах, пацямнела неба,— яркімі фарбамі восень расквеціла дрэвы — яны як-быццам зацвілі. Гэтая залатая восень адчувалася і тут, у гарадку аўтазаводцаў. Абапал вуліц клёны з ліпамі красаваліся сваім дарагім убраннем. Паветра было празрыстае, беласнежныя павуцінкі заляталі і сюды. Дамы, нібы вымытыя нядаўнімі дажджамі, рабілі светлымі вуліцы.

Хлопцы, размаўляючы аб розных дробязях, выйшлі на ўскраіну гарадка.

— Давайце пасядзім, — прапанаваў Пятро.

Селі на лаўцы, якую занёс сюды, відаць, нехта са старых рабочых, каб, адпачываючы, любавацца шырокім прасторам поля, што пачыналася адсюль.

— Анісімаў усё-ж бюракрат, — пасля некаторага маўчання сказаў Пятро. — Ну, чаму было яму не згадзіцца?

— Анісімаў правільна даў мне водпаведзь,— не маючы ахвоты гаварыць на гэтую тэму, вяла сказаў Андрэй. — Будзе лезці кожны са сваімі прапановамі — не надта напрацуеш.

— Дык што, ты ўжо адступаць? — здзівіўся Пятро.

— А я яшчэ і не наступаў нікуды.

— Ён толькі Анісімаву на мазоль наступіў,— засмяяўся Міхась.

— Не, сур'ёзна? — запытаў Пятро.

— А сур'ёзна — хто-ж захоча, адступаючы, ганьбіць сябе.

— Вось гэта па-мойму, — узрадаваўся Пятро. — А ведаеш што, Андрэй, мы табе можам дапамагчы.

— Як гэта? — дзеля ветлівасці пацікавіўся Андрэй.

— Вось я, напрыклад, узяў-бы частку тваёй нормы на сябе. Скажам, ты даваў-бы пяцьдзесят працэнтаў, а я сто пяцьдзесят. Адно на другое і выйшла-б. Так Анісімаву і скажам.

— Ведаеш, што ён табе адкажа на гэта,— уключыўся ў размову Коля. — «Давайце вы лепш, мае дарагія хлопцы, абодва па сто пяцьдзесят».



— Калі ты не хочаш — не трэба. А Анісімава падтрымліваць няма чаго.

— Хто, я не хачу?— пакрыўдзіўся Коля.— Слаба ты мяне ведаеш. Мне таксама няцяжка гэтыя пяцьдзесят працэнтаў узяць. «Анісімава падтрымліваю»! Скажа-ж чалавек!

— Аднаму будзе цяжка, — разважліва сказаў Міхась. — А вось калі зрабіць невялікую брыгаду, тады іншая справа... Ты, Андрэй, камсамолец?

— Хутка выбываю па ўзросту.

— Гэта яшчэ будзе не хутка. Ды брыгада можа быць проста маладзёжнай. Запросім яшчэ Ваню Барысаглебава, ён згодзіцца. Вось і будзе нас пяць чалавек.

— Дарагія сябры мае,— расчуліўся Андрэй і абняў хлопцаў за плечы.— Ніколі я не забуду вашых слоў... Толькі не згодны я з вашай прапановай. Навошта гэта, каб за мяне працаваў хто-небудзь. Ды я і аддзякаваць не змагу вам нічым.

— На вяселле запросіш,— усміхнуўся Пятро.

— Калі яшчэ будзе тое вяселле,— махнуў рукой Андрэй.— Тут з такімі справамі і на дзяўчат не хочацца глядзець.

— Не будзь старым, Андрэй.

— Не буду, Пятро,— засмяяўся Андрэй.— Ведаеце што, хлопцы, пойдзем у кіно.

Яны рушылі да клуба...

Пакарыстацца дабратой хлопцаў Андрэю не дазваляла сумленне. І ўсё-ж прапанова была такой заманлівай, што не давала ні хвіліны спакою. Іх гатоўнасць дапамагчы, іх вера ў Андрэя як-бы падганялі хлопца. Цяпер ён не мог сядзець, склаўшы рукі, ды чакаць з мора пагоды.

Андрэй быў упэўнены, што Анісімаў абышоўся з ім няправільна. Трэба было прабіць гэтую непрадбачаную сцяну і як мага хутчэй.

Можна было звярнуцца ў камсамольскі камітэт, да парторга цэха, да тэхнарука, нарэшце, калі трэба, пагаварыць у заўкоме, парткоме,— але на такі шлях Андрэю станавіцца не хацелася: ён быў вельмі доўгі, ды на ім, чаго добрага, магла паўстаць якая-небудзь новая сцяна. Людзей на заводзе Андрэй яшчэ добра не ведаў, таму і быў насцярожаны. Акрамя таго, Андрэй не жадаў, каб аб яго задуме ведала шмат людзей, не жадаў, як кажуць, падымаць шуму. Па праўдзе кажучы, ён крыху пабойваўся — а што, калі ў яго нічога не выйдзе.

Дзейнічаць усё-ж было трэба.

Пасля доўгіх разваг Андрэй вырашыў пайсці да дырэктара завода, пра якога чуў нямала добрых слоў. «Гэта не армія, каб абавязкова праходзіць усе інстанцыі», — падтрымліваў ён сваё рашэнне.

Да здзіўлення Андрэя, у прыёмнай не было нікога — а ён збіраўся выседзець доўгую чаргу. Сакратарша, калі ўвайшоў Андрэй, падняла ад сваіх папер вочы і не паспела іх апусціць, як хлопец быў ужо каля стала. Ён паглядзеў дзяўчыне ў вочы і раптам засмяяўся.

— Вы што?— збянтэжылася сакратарша.

— Гэта я ў газеце прачытаў нядаўна верш наконт вашых вачэй.

Дзяўчына здзіўлена прыўзняла бровы.

— Ну, наконт святла, якое загараецца ў іх, калі просяцца на прыём да начальніка,—



Нічога яснага Андрэй выказаць не мог. Яму раптам захацелася сказаць дырэктару «да пабачэння» і пайсці адсюль, толькі зрабіць так было нялоўка.

— Наколькі я зразумеў, — сказаў Арцём Паўлавіч, — у цябе ёсць вялікае жаданне падумаць над станком.

— Так, жаданне вялікае, — павесялеў Андрэй.

— Ёсць некаторы вопыт...

— І гэта ёсць, — ужо зусім весела пацвердзіў Андрэй.

Арцём Паўлавіч нешта запісаў у настольным календары, і гэты запіс Андрэй успрыняў, як сваю перамогу.

— Толькі жаданні ўсе грунтуюцца пакуль што на голым месцы.

— Выходзіць што так, — згадзіўся ашаломлены Андрэй.

— І ты не вельмі ўпэўнены, што адарваўшы ад

растлумачыў Андрэй.— Чырвонае, жоўтае, зялёнае — у залежнасці ад наведвальніка. А вашы вочы блакітныя — колер не прадугледжаны ў вершы.

— Ах, вы вось аб чым, — усміхнулася дзяўчына.— Я таксама чытала гэты верш... Толькі Арцём Паўлавіч усёроўна прыняць зараз не можа, ён заняты.— Аб прыёмных гадзінах сакратарша чамусьці прамаўчала.

— Вы запытайцеся, калі ласка, у яго самога.

— Нічога не будзе.

— А вы паспрабуйце.

Сакратарша ўстала з-за стала, і тут ужо Андрэй не стрымаўся, каб не сказаць самому сабе: «Ох, чорт, і ўмеюць-жа начальнікі выбіраць сабе ў сакратаршы прыгожых дзяўчат».

— Як далажыць?— запытала сакратарша.

— Рабочы, па вельмі пільнай патрэбе.

— Прозвішча?

— Можна і без прозвішча. А калі вас гэта цікавіць, — Былінскі Андрэй.

Сакратарша далажыла, і, на яе здзіўленне, дырэктар згадзіўся прыняць наведвальніка. Сакратаршу гэта нават крыху ўзрадавала — ёй падабаўся гэты чарнявы хлопец з рашучым, хоць і зусім маладым тварам.

Кабінет у дырэктара быў мала чым меншага памеру, як цэх. Пакуль дойдзеш па такім кабінеце да стала, дык калі і не забудзеш, аб чым хацеў прасіць, то ва ўсякім разе голас ужо твой пацішэе.

Дырэктар выйшаў з-за стала насустрач Андрэю.

— Ну, пільная справа — гэта, скажам, гаворыць кожны,— прабасіў Арцём Паўлавіч,—а вось што рабочы — гэта добра. Што за патрэба ў цябе?

Па выгляду Арцём Паўлавіч нечым нагадваў бацьку. Так прынамсі здалося Андрэю. І калі ён, ідучы сюды, меў намер пагаварыць сур'ёзна, што называецца, патрабаваць, каб далі неабходныя ўмовы, дык цяпер яму захацелася паскардзіцца, як скардзяцца бацьку, калі цябе крыўдзяць нядобрыя людзі.

Андрэй расказаў, у чым справа.

Арцём Паўлавіч, уважліва слухаючы, вымаўляў час-ад-часу: «добра» або «так-так» і, калі Андрэй скончыў, запытаў раптам, як яму спадабаўся аўтазавод і што тут не спадабалася.

Андрэй пахваліў усё. Потым, па просьбе Арцёма Паўлавіча, яму прыйшлося расказаць, як ён уладзіўся ў інтэрнаце, як жыў у арміі і нават успомніць сваю вучобу ў рамесным вучылішчы.

— Дык што ты знайшоў у станку такога недасканалага? — запытаў пасля гэтага дырэктар.

— Як вам сказаць...

— Гавары, гавары смялей. Я ў такарных станках разбіраюся.

цэха станок, зробіш што-небудзь карыснае.

— Не, я цвёрда ўпэўнены ў гэтым,—рашуча сказаў Андрэй. Тут ён хацеў расказаць аб прапанове хлопцаў, але стрымаў сябе і прамаўчаў.

— Ты ў нашым бюро рацыяналізацыі і вынаходстваў быў?— запытаў дырэктар.

— Не, не быў.

— Схадзі. Толькі не бянтэжся, калі прымуць цябе няласкава. Ім гатовыя прапановы давай, тады яны разгледзяць іх і то праз поўгода. Яны ў нас такія.

— Добра, схаджу,— паабяцаў Андрэй.

На гэтым іх размова скончылася. Хай сабе Арцём Паўлавіч сказаў ледзь не тое самае, што Анісімаў, толькі мякчэй, у Андрэя было ўражанне, што дырэктар яго падтрымаў.

— Ну, вось мяне і прынялі,— весела сказаў ён сакратаршы, выйшаўшы з кабінета.— А вы баяліся.

— Што сказалі? Усё добра?

— Дзякую. Вядома, добра. Інакш і быць не магло... Даў-бы вам на развітанне руку, ды яна... была каля станка. Шчаслівая заставацца і не сумаваць.

Сакратарша з жахам падумала, што калі-б гэты хлопец прапанаваў ёй, скажам, пайсці ў кіно ці прагуляцца, яна згадзілася-б — нешта такое ўладнае было ў яго абліччы і ў яго голасе.

Так сустрэліся першы раз Андрэй Былінскі і Марына Верхаводка...

Не адкладаючы справы на доўгі час, Андрэй назаўтра-ж пайшоў у бюро рацыяналізацыі і вынаходстваў.

Арцём Паўлавіч, відаць, добра ведаў сваё бюро. Сустрэлі там Андрэя сапраўды няветліва, не могучы зразумець, чаго ад іх хоча гэты Былінскі. Потым прыйшлі іншыя наведвальнікі, і на Андрэя як-бы забыліся.

Андрэй сядзеў збоку і слухаў, як пад неабвержанымі доказамі начальніка бюро рассыпаецца, нібы пясок, вынаходства аднаго пажылога рабочага, над якім той праседзеў, напэўна, нямала бяссонных начэй. Андрэю было шкада дзядзькі, але адначасова падумалася, што такіх памылак ён сам не нарабіў-бы. Гэта падбадзёрыла хлопца.

Дзядзьку параілі, што трэба пачытаць, каб ясней было пытанне, якое яго займае, і каб не ламаць галавы над тым, што ўжо даўно вынайдзена.

Частку з кніг, якія назвалі дзядзьку, Андрэй чытаў. Наогул ён любіў чытаць кнігі па тэхніцы і ўжо даўно збіраўся займець уласную бібліятэчку з такіх кніг, ды ўсё да апошняга часу гэтага зрабіць неяк не выпадала. Тут Андрэй упершыню падумаў, што нядрэнна было-б паступіць у вячэрні аўтатэхнікум, каб аформіць свае веды, якіх, як спадзяваўся Андрэй, набіралася ў яго ўжо нямала. Дзесьці далёка ў думках прамільгнуў і інстытут, але аб ім марыць было яшчэ рана.

Другі наведвальнік, з якім пачаў размаўляць начальнік бюро, быў шчаслівейшы. Яго рацыяналізатарская прапанова прымалася, толькі трэба было тое-сёе яшчэ ўдакладніць. Не, Андрэй не зайздросціў гэтаму чалавеку, ён быў упэўнены, што неўзабаве з ім самім таксама будуць размаўляць як з рацыяналізатарам, які ўнёс каштоўную прапанову.

Адаслаўшы наведвальніка да аднаго з работнікаў бюро, начальнік звярнуўся да Андрэя:

— Што вам яшчэ сказаць, малады чалавек?.. Вы не хочаце, часам, пазнаёміцца з прапановамі, якія ўносіліся ўжо на нашым заводзе па такарнаму станку?

— Так, так. І па разцах, — ажывіўся Андрэй. Як ён цяпер зразумеў, гэта было самае важнае, дзеля чаго ён сюды наведаўся. І як гэта не здагадаўся ён сам запытацца аб гэтым!

Пакідаў бюро Андрэй з адчуваннем, што прыходзіў ён сюды недарэмна.

Хоць Андрэй і адмовіўся ад дапамогі хлопцаў, брыгаду яны ўсё-ж стварылі — урэшце, чым кепска проста папрацаваць брыгадай, паспаборнічаць.

Цяжка, часамі пакутліва прыходзіць першы поспех да вынаходцы і рацыяналізатара, якому трэба знайсці, ясна ўбачыць тое, чаго не бачыў дагэтуль ні ён сам, ні тысячы людзей да яго. Але затое як радасна і светла на душы, калі гэты поспех заваяваны.

Радасць творчай працы спазнаў і Андрэй Былінскі. Гэта была і яго перамога, і перамога ўсёй брыгады Пятра Завадзькі...





**Апрацоўка станіны крывашыпнага прэса ў механічным цэху Мінскага рамонтна-механічнага завода. Тэхнолаг камсамолец Л. Рудзінскі (справа) дае парады расточніку А. Лазару.**

Фото А. Дзітлава.



**250 юнакоў і дзяўчат атрымліваюць спецыяльнасці токараў, слесараў, электразваршчыкаў у Гомельскім рамесным вучылішчы № 3. Практыку навучэнцы праходзяць на заводзе «Гомсельмаш».** На здымку: **камсамолкі з групы токараў Валянціна Зарэцкая і Ольга Курыленка на практычных занятках у механічнай майстэрні.**

Фото М. Мінковіча.

# Што вы параіце?

гэта не магло стаць перашкодай паміж вамі. Мы ўсе павінны ведаць адмоўныя рысы блізкага нам чалавека таксама, як і станоўчыя. Каханне — гэта пачуццё глыбокае, палымянае, якое не так лёгка забываецца. Віктар, ты доўга будзеш насіць у сабе вобраз Клавы. Але толькі тады, калі погляды на жыццё, на працу, на сяброўства ў вас будуць агульныя, ты зноў зможаш разлічваць на давер'е і каханне Клавы.

Анатоль УСАЎ.
Гомельская вобл.
Жлобінскі р-н
в. Пірэвічы.

## Каханне павінна быць прыгожым

Прачытаўшы пісьмо Міколы Валошкі, я ўспомніў два выпадкі. У пачатку свайго пісьма мне хочацца сказаць, што, на мой погляд, Клава кахала Віктара, але ён не мог заўважыць яе прыгожага кахання і захваляваўся. Вось прывяду два прыклады.

Мой сябра Барыс В., які цяпер працуе на мотавелазаводзе, кахаў Ніну Н. Яму Ніна вельмі падабалася. Ён заўсёды запрашаў яе ў кіно, на лекцыі, на танцы, і яна амаль што кожны раз згаджалася. Але Барысу здавалася, што яна яго не кахае. Аднаго разу Барыс звярнуўся да мяне.

— Што мне рабіць? — гаворыць ён. — Я яе кахаю, не магу без яе.

— Ну, і кахай, — адказаў я.

— Дык яна мяне зусім не кахае...

— Яна сама табе аб гэтым сказала? — запытаў я.

— Ды не, яна нічога не гаворыць, але да мяне адносіцца, як і да ўсіх. Разумееш, я не заўважаю, каб яна мяне кахала.

І вось што атрымалася. Барыс працягваў сябраваць з Нінай. І калі ён аднойчы сказаў, што хоча, каб Ніна стала яго жонкаю, яна спакойна і сур'ёзна адказала, што згодна. Барыса гэта так здзівіла, што ён стаяў моўчкі і глядзеў Ніне ў вочы, не разумеючы, смяецца яна ці гаворыць сур'ёзна.

— Дык ты мяне не кахала і згодна выйсці замуж? — пасля працяглага маўчання сказаў Барыс.

— Мусіць-жа кахала і кахаю, калі згодна.

Барыс цяпер разам з Нінай — яна стала яго жонкай. І жывуць яны дружна, у згодзе.

А вось другі прыклад. Мой знаёмы Мікалай М. расказаў мне аднаго разу пра такі выпадак.

— Пазнаёміўся я з дзяўчынай. Яна так у мяне закахалася, што далей нельга. А я ў яе не так. Яна на ўсё са мною згодна...

Зараз Мікалай не кахае той дзяўчыны, ён пачаў гуляць з другою.

— Гэта не каханне. Калі-б тая дзяўчына кахала Мікалая так, як Ніна, і так, як Ніна, паважала сябе, дык Мікалай, магчыма, і пакахаўбы яе па-сапраўднаму.

Пётар КРУПКО,
электрык цэха тралёвачных трактараў Мінскага трактарнага завода.

## Вельмі важна

Нядаўна я прачытала ў часопісе «Маладосць» артыкул М. Валошкі «Што вы параіце?»

Аўтар выказвае сапраўды справядлівае меркаванне аб тым, што пытанні кахання, сяброўства, шчасця вельмі рэдка абмяркоўваюцца ў друку. А гэта вельмі важна.

Зразумела, што пытанні гэтыя вельмі важныя і па шаблону тут дзейнічаць не будзеш, але ўсё-ж хочацца пачуць добрую параду ад людзей, больш вопытных у гэтай справе.

Хачу сказаць некалькі слоў аб Клаве. Мне не зразумелы яе адносіны да Віктара. У яе, напэўна, ёсць нейкія падставы не адказваць на яго каханне. Дзіўным здаецца тое, што дзяўчына, пражыўшы на свеце 22 гады, нікога яшчэ не кахала і не хоча пакахаць.

Магчыма, у яе ёсць свае меркаванні па гэтаму пытанню, а Віктар не разумее гэтага.

Тут-жа хачу выказаць сваю нязгоду з поглядам аўтара, што «...каханне, нават не раздзеленае, прыносіць людзям шчасце». Для доказу прывяду прыклад.

У мяне была блізкая сяброўка А. Разам з ёю мы вучыліся і скончылі педвучылішча. Паехалі працаваць у вёску.

А. сустрэлася з юнаком В., які дэмабілізаваўся з флоту. Некаторы час яны праводзілі разам. А. шчыра пакахала яго. Яна была шчаслівая.

В. задумаў вучыцца далей. Ён паехаў у горад, паступіў на курсы. Дзяўчына атрымлівала ад яго пісьмы, віншавальныя тэлеграмы. Шчыра, душэўна адказвала на іх.

Але прайшоў некаторы час.

Ён перастаў пісаць пісьмы і некуды знік. А. цяжка перажывала, яна спрабавала пісаць яму, але дарэмна. Зусім нядаўна яна даведалася, што ён ажаніўся, у яго ўжо ёсць дзіця. А. сказала мне, што ўжо амаль забылася аб ім, але я бачу, што гэта зусім не так. Яна і цяпер захоўвае яго пісьмы і паштоўкі.

Вось прыклад нераздзеленага кахання. Не вялікае шчасце прынесла яно А.

Віктар таксама трапіў не ў вельмі выгаднае становішча. Цяжка параіць яму, як паступіць. Хочацца толькі, каб ён знайшоў сапраўднае шчасце і добрага сябра жыцця. Ад усяго сэрца жадаю яму гэтага.

Галіна БАЙРАШЭЎСКАЯ,
настаўніца Жураўскай школы Бярэзінскага раёна.

## Ведаць чалавека

Дарагі Віктар!

Успомні словы А. П. Чэхава, які гаварыў: «У чалавеку павінна быць усё прыгожае: і твар, і вопратка, і душа, і думкі».

Некаторыя кахаюць толькі прыгожых, не разабраўшыся ў чалавеку. Гэта — няправільна. Трэба кахаць чалавека, якому можаш ва ўсім давяраць, які правільна разумее жыццё, сяброўства, каханне.

Відаць, вы спачатку адчувалі ўзаемныя сімпатыі адзін да другога. Магчыма, Клава прыкмеціла што-небудзь адмоўнае ў табе. Але

## Людзі свабодныя ў сваіх пачуццях

Чым больш думаеш аб жыцці, чым больш пазнаеш яго, бачыш, якімі складанымі з'яўляюцца асабістыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. З адным з такіх цяжкіх бакоў сутыкнуліся і вы, Мікалай. Гэтым, відаць, і выклікана ваша пісьмо. Нажаль, у пісьме цяжка, амаль немагчыма бачыць характары і Віктара, і Клавы. Аднак адчуваецца ваша сімпатыя да іх. Значыць, гэтыя людзі не маюць рэзка адмоўных рыс характару, што магло-б адштурхнуць, напрыклад, Клаву ад Віктара. Клава проста не кахае. Ужо адно тое, што яна прызналася ў гэтым Віктару, гаворыць аб яе сумленнасці ў адносінах да яго. Значыць, яна магла-б быць добрым таварышам.

Вось, дапусцім, што Віктар прымае прапанову Клавы і яны застаюцца таварышамі. Калі Клава нікога не пакахала ў інстытуце, дык можна дапусціць, што яна не так хутка яшчэ пакахае і на заводзе. Клава прыехала з Масквы, значыць, у Магілёве ў яе яшчэ няма шырокага кола знаёмых. Натуральна, што кампанію добрага таварыша яна не зможа не цаніць, а калі Віктар будзе (мы верым) да яе адносіцца вельмі добра, дык яна заўсёды будзе рада яму. Чалавек прывыкае да ўсяго: да людзей, з якімі разам працуе і змагаецца за адны і тыя-ж мэты; да горада, у якім жыве; да рэчаў, якія яго абкружаюць і з'яўляюцца для яго ў нейкай меры неабходнымі, і калі яму даводзіцца з чым-небудзь прывычным расставацца або тым больш страчваць гэтае прывычнае, яму да болю становіцца горка.

Так, безумоўна, было-б і з Клавай. Праца — разам, спрэчкі — разам, прагулкі ўдвух зрабілі-б Віктара для яе настолькі неабходным, што яна не ўяўляла-б сябе без яго. Тым больш, што яна не ведала раней сапраўднага кахання. Ёй пачало-б здавацца, што яна кахае Віктара. Вялікую ролю тут адыграла-б, мне здаецца, і самапераканананне. Чым далей тым больш яна верыла-б, што кахае Віктара. Ужо ніхто не здзівіўся-б намечанаму вяселлю, і маладыя былі-б шчаслівыя.

Але пройдзе нейкі перыяд, і Клава ўсё-ж пакахае некага іншага. Гэта будзе, можа, чалавек і не прыгажэйшы і не разумнейшы за Віктара, але яна пакахае яго. І тут, калі яна пазнае ўсю глыбіню і асалоду пачуцця, якое ахопіць яе, яна з жахам убачыць мужа, сям'ю... Што рабіць?

І вось памяркуйце, Мікалай, якія жахлівыя пакуты прынясе гэты факт усім траім. Усе будуць праклінаць любоў — пачуццё, якое павінна несці толькі шчасце, радасць. І які глыбокі душэўны надлом можа напаткаць Клаву, калі яна пастравіць вышэй за ўсё сям'ю і не пойдзе ад мужа.

А можа і пайсці... Дык ці варта за нядоўгае шчасце з каханай дзяўчынай плаціць пасля такімі перажываннямі?

Гэта адзін з магчымых выпадкаў.

А іх можа быць многа. Пры такіх абставінах я не веру ў добры канец.

Вельмі важным фактарам, па майму разуменню, з'яўляецца тое, што Клава ніколі не кахала. Першае каханне не прыходзіць з прывычкай заўсёды бачыць чалавека побач. Яно быццам «абрушваецца» на чалавека так нечакана, што часам ашаламляе яго. А прыйсці яно павінна абавязкова. Ці дастаткова сілы волі ў гэтай дзяўчыны, каб адвярнуцца ад гэтага кахання з-за святога абавязку захавання сям'і? Ці верыць настолькі ў яе Віктар? Ці верыць ён настолькі ў сябе, каб сустрэць твар у твар гэтае магчымае няшчасце?

А з другога боку, я не веру, каб разумны, валявы хлопец не змог узяць сябе ў рукі і не паддавацца пачуццям. Калі ён самалюбівы, дык ніколі не стане рабом пачуццяў. Ён-жа стаў патрэбным грамадству чалавекам, не пайшоў па крывой дарозе, значыць, воля чалавека, які паважае сябе, не дасць яму звярнуць і на гэты шлях поўнага падпарадкавання. Ён павінен забыць Клаву. Вядома, будзе цяжка, горка, але ён перасіліць. Не разважай і хлюпікаў выхоўвае з нас комсамол, усё наша грамадства. І кожны малады чалавек павінен супроцьпаставіць сваю волю жыццёвым нягодам і няўдачам. «Чалавек — гэта гучыць горда». І калі Віктар сапраўдны чалавек, ён сур'ёзна прааналізуе абставіны і прыме правільнае рашэнне, дастойнае яго гонару.

Маргарыта СЯРГЕЕВА,
інжынер.

## Ім трэба дружыць

Мікалай, я з вялікім задавальненнем прачытала вашу заметку, змешчаную ў часопісе «Маладосць» № 2 за 1956 год. Гэта — адзін з многіх выпадкаў кахання, прычым такі, які цяжка вырашыць. Мне захацелася абавязкова даць адказ на ваша запытанне. Магчыма, я памыляюся...

Забыць Клаву назаўсёды, мне здаецца, Віктар не зможа. Яна будзе ў яго памяці, таму што ён яе вельмі кахае. Віктар умее моцна кахаць, а таму ён зможа перасіліць свае пачуцці. Мы-ж кіруемся ў жыцці больш розумам, а не пачуццямі. Ён зможа пакахаць другую дзяўчыну, якая на яго пачуцці будзе адказваць узаемнасцю.

Клава — чалавек моцнага характару. Яна таксама ўмее горача кахаць, але не хоча раскідваць свае пачуцці, якія беражэ для таго, каго яна пакахае на ўсё жыццё, хто будзе яе спадарожнікам у жыцці.

На мой погляд, не трэба было адмаўляцца Віктару ад сяброўства з Клавай. Калі моцныя характары ў дзяўчыны і юнака, дык сяброўства паміж імі можа быць, а тым больш, што яны працуюць разам, змогуць аказваць дапамогу адзін другому ў жыцці.

Людміла ЛУКАШЭВІЧ.
Маладзечанская вобл.
Докшыцкі р-н, в. Заборцы.

# БУДУЙЦЕ СПАРТЫЎНЫЯ ПЛЯЦОЎКІ




Мал. № 3. **Гімнастычны гарадок.**
**А — асноўная рама гарадка, Б — перакладзіна, В — канат для лазання, Г — шост рухомы, Д — шост нерухомы, Е — кольцы гімнастычныя, Ж — бервяно для роўнавагі, З — нахільная лесвіца.**

Дзе, як не на спартыўных пляцоўках і стадыёнах, моладзь выяўляе свае спартыўныя таленты, з захапленнем займаецца фізкультурай!

Зараз, напярэдадні лета, патрэбна паклапаціцца, каб усюды былі свае спартыўныя пляцоўкі ці гарадкі. Іх пабудаваць можна самім, сваімі сіламі.

Там, дзе гэта магчыма, пажадана, каб спартыўная пляцоўка была комплекснай. Гэта значыць, каб на ёй былі сектары для заняткаў рознымі відамі спорту — лёгкай атлетыкай, гімнастыкай, валейболам і г. д. Можна, вядома, пабудаваць асобна валейбольную пляцоўку ці, напрыклад, гімнастычны гарадок.




Мал. 1. **Валейбольная пляцоўка.**

Найбольш простым і разам з тым захапляючым відам спорту з'яўляецца валейбол. Таму ў кожным калгасе, у школе, у МТС павінны быць у першую чаргу валейбольныя пляцоўкі.

Для будаўніцтва гэтай пляцоўкі трэба падабраць роўны ўчастак плошчай 23×14 метраў. Размер пляцоўкі для гульні 18×9 метраў. Яе агульны выгляд паказаны на малюнку № 1.

Пляцоўка абводзіцца лініямі прыкметнай фарбай ці разведзенай у вадзе крэйдай. Шырыня лініі не больш 5 сантыметраў і ўваходзіць у памеры пляцоўкі. Удоўж сярэдняй лініі паміж слупамі нацягваецца вяровачная сетка з тросам дыяметрам 4—5 мм. Слупы размяшчаюцца на адлегласці поўметра ад бакавых ліній. Верхні край сеткі ўстанаўліваецца строга гарызантальна на вышыні 2,45 метра — для мужчын і 2,25 метра — для жанчын.

Прасцейшая валейбольная пляцоўка можа быць размешчана на зямлі, ачышчанай ад травяного пакрову. Яе грунт павінен добра ўбіраць ваду.

Больш палепшаную валейбольную пляцоўку можна зрабіць на спецыяльна падрыхтаваным грунце. Для гэтага неабходна выкапаць катлаван глыбінёй 25—30 см, плошчай 18×9 метраў. Ніжні пласт вышынёю да 12 см. неабходна засыпаць цэглай і буйным шлакам, другі пласт — 5 см — дробным шчэбенем і шлакам і верхні — 10 см — глінай з пяском. Затым пляцоўку змачваюць вадой і ўкатваюць. На такой пляцоўцы ніколі не будзе пылу, яна хутка прасыхае ад дажджу.

Пляцоўка размяшчаецца з захаду на ўсход. Пры планіроўцы трэба выбіраць месцы, укрытыя ад ветру. Слупы для мацавання сеткі бываюць розныя. Прапануем такія памеры, як паказана на малюнку № 2.




Мал. 2.

Уласнымі сіламі і сродкамі фізкультурнага калектыву можна зрабіць і гімнастычны гарадок. Ён асабліва там патрэбен, дзе няма спартыўных залаў. Узор гарадка прасцейшай канструкцыі паказан на малюнку № 3.

Гэты гарадок складаецца з двух слупкоў вышынёю ад зямлі 5—5,5 метра, дыяметрам 20 — 25 сантыметраў і перакладзіны такой-жа таўшчыні. Перакладзіна ўмацоўваецца на слупах з дапамогай шчыпоў і жалезных хамутоў. На ёй загадзя павінна быць зроблена разметка і ўмацаваны металічныя кругі, з дапамогай якіх да перакладзіны прымацоўваюцца падвесныя снарады: шост нерухомы, шост рухомы, гімнастычныя кольцы, канат для лазання. Дыяметр шастоў і каната 4 — 5 сантыметраў. Шост лепш за ўсё рабіць з бярозавай жэрдкі. Па баках слупоў ўмацоўваецца нахільная лесвіца, бервяно і перакладзіна.

Перакладзіну можна зрабіць з металічнага стрыжня, даўжынёю 2,6 — 2,8 метра, дыяметрам 2,5 — 3 см. Лесвіца робіцца шырынёю 50 см. Адлегласць паміж ступенькамі — 40 — 45 см., якія вырабляюцца з бярозавых брускоў таўшчынёю не больш 4 см.

Для гімнастычнага гарадка выбіраецца роўнае, добрае месца, дзе грунт лёгка прапускае ваду.

Больш складаным спартыўным збудаваннем з'яўляецца стадыён. Падрабязнае апісанне прасцейшага сельскага стадыёна вы знойдзеце ў брашуры кандыдата тэхнічных навук, заслужанага майстра спорту В. Палікарпава «Простейшие спортивные сооружения на селе».

**Н. КАРАНЕВІЧ,**
**суддзя рэспубліканскай катэгорыі па спартыўных іграх.**

---

# ЯК ЗРАБІЦЬ ГРАМААДВОД

Грамаадвод, ці больш правільна маланкаадвод, прызначаны для аховы будынкаў і збудаванняў ад паражэння маланкамі. Гэта робіцца шляхам адводу ў зямлю электрычных зарадаў навальнічных воблакаў.

Грамаадвод зрабіць не цяжка. Той, хто будзе яго рабіць, павінен прытрымлівацца наступнага правіла. Калі грамаадвод устанаўліваецца на асобным будынку ці на адным з двух-трох, якія стаяць побач, дык неабходна, каб яго вастрыё было не менш, чым на 4 — 5 метраў вышэй самай высокай часткі гэтага ці суседніх будынкаў. Каб захаваць ад маланак некалькі будынкаў, напрыклад, групу жывёлагадоўчых памяшканняў, блізка размешчаных адзін ад другога, то трэба ставіць некалькі грамаадводаў па вуглах квадрата, які мае старану 120—200 метраў. Пры гэтым, трэба імкнуцца паставіць грамаадводы на найбольш высокіх будынках. Скажам, калі ферма ці пасёлак размешчаны на плошчы 250×250 метраў, то дастаткова паставіць чатыры грамаадводы па вуглах квадрата са стараной 150×150 метраў.

Як-жа зрабіць грамаадвод?

Грамаадвод складаецца з трох асноўных дэталей — металічнага (жалезнага) стрыжня дыяметрам 20 — 25 мм, даўжынёй 3 — 4 метры, які завостраны з аднаго канца, адводзячага провада і зазямлення.

Стрыжань можна прымацаваць скобамі да драўлянай жэрдкі 10×10 сантыметраў, даўжынёю 5 — 6 метраў. Гэтая жэрдка са стрыжнем прыбіваецца да франтона будынка, да слупа, які закопваецца ў зямлю ці да дрэва. Калі стрыжань умацоўваецца на дрэве, то трэба, каб астрыё стрыжня на 2 — 3 метры ўзвышалася над верхавінай дрэва.

Пры мацаванні стрыжня да металічнай канструкцыі, яго трэба мантыраваць на ізалятарах. Мацаванне адводзячага провада да стрыжня павінна забяспечваць добрую правадзімасць месца злучэння.

Можна парэкамендаваць наступны спосаб злучэння провада са стрыжнем. У тарцовай частцы стрыжня робіцца адтуліна дыяметрам 7 — 10 мм — у залежнасці ад таўшчыні провада — на глыбіню 75—100 мм. Збоку стрыжня на адлегласці 25 і 50 мм ад яго канца высвярляюцца дзве адтуліны пад разьбу 3/8—5/16 дзюйма і ставяцца два штопарныя вінты. Канец гэтага провада на даўжыні, якая адпавядае глыбіні адтуліны ў стрыжні, старанна зачышчаецца напільнікам, залуджваецца і ўстаўляецца ў адтуліну ў стрыжні і шчыльна заціскаецца штопарнымі вінтамі. Зазор паміж провадам і стрыжнем на яго тарцы неабходна запаяць.

Адводзячы провад лепш за ўсё прымяняецца медны, голы, віты. Пры яго адсутнасці можна выкарыстаць алюмініевы і жалезны. Медны провад рэкамендуецца дыяметрам не менш 5,5 мм алюмініевы — 10 мм і жалезны — не менш 6 мм.

Зазямленне робіцца наступным чынам. Выкопваецца катлаван 1,0×1,5 метра, глыбінёю 2,5 метра. Лепш калі катлаван будзе выкапаны да ўзроўню грунтовых вод.

Канец адводзячага провада трэба добра прыпаяць да жалезнага ліста плошчаю не менш паўтара квадратных метра. Жалезны ліст з прыпаяным канцом адводзячага провада закопваецца ў зямлю і старанна ўтрамбоўваецца. Трэба сачыць, каб у гэту ямку не трапіла каменне, смецце і г. д. Варта звяртаць увагу на тое, каб былі добра злучаны стрыжань з провадам і провад з зазямленнем.

Пры адсутнасці цэлага, патрэбнай даўжыні, провада можна яго зрабіць з кавалкаў, але іх трэба добра спаяць.

Агульнае супраціўленне ўсёй сістэмы павінна быць не больш аднаго ома.

**В. БІЛЬДЗЮКЕВІЧ,**
**інжынер.**

Інтэрв'ю „Маладосці"

# ПРЫГОЖЫМ БУДЗЕ НАШ ГОРАД!

Адна цэнтральная вуліца. Дзесятак каменных дамоў. Некалькі электрычных ліхтароў. Невялікі парк, звычайна абнесены драўляным невысокім плотам з брамкай без дзвярэй. У парку на кожным дрэве таблічкі: «Не ламайце дрэвы», «Хадзіць па газонах забараняецца», «Беражы дрэвы — яны твае сябры». І, нягледзячы на гэтыя забароны, галіны ў многіх дрэў абламаны, праз газоны пракладзены сцежкі, а таблічкі, якія заклікаюць берагчы дрэвы, прыбіты да іх вялізнымі цвікамі. На ўскраіне — адзін, два, а часам і больш заводаў, цэхаў, арцеляў. Але і ля заводаў, дзе-небудзь на задворках валяюцца кучы смецця, адыходаў. Такі знешні выгляд маюць многія раённыя цэнтры нашай рэспублікі.

За гады совецкай улады ў такіх гарадах змянілася ўсё: пабудаваны школы, клубы, бібліятэкі, дамы культуры, амбулаторыі, стадыёны, электрастанцыі, насаджаны сады і паркі, змяніліся самі людзі — яны сталі культурнымі, адукаванымі, а вось выгляд вуліц, двароў, паркаў амаль не змяніўся. Чаму? Можа, няма грошай і «бацькі горада», карыстаючыся словамі дарэволюцыйнай тэрміналогіі, вымушаны звяртацца да дабрачынцаў за дапамогай? Нічога падобнага. І грошы адпускаюцца, і планы па добраўпарадкаванню ёсць.

Справа ў тым, што да так званых «дробязей» пакуль што не дэходзілі рукі. Пасля вайны ў нас было вельмі многа неадкладных, больш важных спраў, чым рамонт тратуараў або ачыстка заводскага



двара. І з цягам часу некаторыя зжыліся з такім становішчам, лічылі яго нармальнай з'явай.

Першымі сказалі «хопіць» жыхары горада Барысава.

Хопіць бруду!

Хопіць бездарожжа!

Зробім свой горад чыстым, утульным, культурным, зялёным, сапраўдным соцыялістычным горадам!

Гэта было летась. Напэўна, усе яшчэ не забыліся пра зварот барысаўчан — добраўпарадкоўваць свае гарады. Зварот гэты абмяркоўвалі працоўныя многіх гарадоў. Выявілася, што многае можна зрабіць без асаблівых затрат часу і сілы. Усе здзіўляліся: як можна было гэта цярпець дасюль!

Карэспандэнты «Маладосці» напрадвесні пабывалі ў ініцыятараў добрага пачыну, папрасілі іх расказаць чытачам нашага часопіса пра свае поспехі, пра планы на будучае.

У кабінет сакратара гаркома партыі Паўла Якаўлевіча Кіякоўскага прышлі намеснік старшыні райвыканкома Мікалай Гаўрылавіч Шабуняеў і загадчык аддзела гарадской комунальнай гаспадаркі Дзмітры Паўлавіч Маладцоў. Яны расказалі:

— Летась нам было адпушчана на добраўпарадкаванне горада 1.151 тысяча рублёў. Гэтыя сродкі мы поўнасцю па-гаспадарску выкарысталі. Што было зроблена? Вось некалькі лічбаў. Капітальна адрамантавана праезджая частка вуліц — 10.311 кв. метраў, пабудавана і адрамантавана 7.810 кв. метраў тратуараў, устаноўлены асвятляльныя мачты, пасаджана 13.280 дрэў і 12.000 кустарнікаў, пры гэтым стараліся садзіць пладовыя дрэвы. Пакрысе горад рэканструіруецца: будуюцца новыя дамы, ствараюцца плошчы, расшыраюцца вуліцы.

— А якія планы на будучае? — запыталіся мы.

— Сёлета мы збіраемся адрамантаваць 12 тысяч кв. метраў вуліц, зрабіць 10 тысяч кв. метраў тратуараў, устанавіць каля 300 асвятляльных ліхтароў, высадзіць 25 тысяч дрэў і кустоў. У наступныя гады намечана пракласці вадаправод, зрабіць каналізацыю, закончыць будаўніцтва вялікага стадыёна, воднай станцыі. Усё гэта не словы — за імі пойдуць жывыя справы. Насельніцтва горада прымае самы актыўны ўдзел у добраўпарадкаванні. На кожнай вуліцы, у кожнай установе, на заводах у нас ёсць актывісты, якія многае зрабілі для свайго горада. Яны і самі выходзяць на грамадскія работы, і прыцягваюць да іх сваіх суседзяў. Летась кожны дзень на добраўпарадкаванні горада працавала 300—400 чалавек. Ну, а сёлета колькасць удзельнікаў павялічыцца. Вам варта пагаварыць з нашымі лепшымі актывістамі.

Мы пайшлі на заходнюю ўскраіну Барысава, на вуліцу Чапаева. Там мы сустрэліся з актывісткай Марыяй Андрэеўнай Луцкевіч.

— Марыя Андрэеўна, раскажыце чытачам «Маладосці» пра сваю



работу па добраўпарадкаванню горада, — папрасілі мы.

— Звычайная, будзённая справа. Пасадзіла дрэвы, зрабіла тратуар. Ну, і вядома, суседзяў угаварыла зрабіць тое-ж. З нашымі людзьмі працаваць лёгка. Яны ўсё разумеюць. Ды і падумайце толькі. Кожны чалавек уважліва сочыць за сабой: і памыецца, і прычэшацца, і чыстае адзенне апране. Інакш-жа сорамна на вуліцу паказацца. А хіба не сорамна, калі на вуліцы брудна, гразь непралазная? Ды і нязручна. Вось мы сабраліся, я і пытаюся: «Ці можна, жанчыны, так далей жыць?» «Не, — адказваюць, — нельга». Так і пачалі працаваць. Прыязджайце да нас праз пяць год. Не пазнаеце Барысава. Гэта будзе горад-сад, чысты і прыгожы. І гэта зробім мы.

А ў школе № 19 мы пазнаёміліся яшчэ з двума актывістамі — старшынёй піонерскай дружыны Святланай Бутвілоўскай і вучнем 5 класа Лёнем Бражнікавым.

Лёня расказаў:

«Летась я пасадзіў 5 дрэў ля свайго дома, а таксама ўдзельнічаў у пасадцы школьнага саду. Сёлета пасаджу яшчэ 8 пладовых дрэў, буду дапамагаць у добраўпарадкаванні прывакзальнай плошчы. Калі-б усе вучні пасадзілі па 5 дрэў, дык за адзін год у нашых гарадах прыбавілася-б каля аднаго мільёна дрэў».

У добраўпарадкаванні горада актыўна ўдзельнічае моладзь. Увосень моладзі на работы выходзіла так многа, што прышлося стварыць спецыяльны маладзёжны штаб з 17 чалавек. Старшыня ініцыятыўнага штаба сакратар гаркома комсамола Яўгені Лукоўскі. Мы пацікавіліся, што робіць штаб цяпер.

«Штаб распрацоўвае мерапрыемствы на веснавы сезон, — расказвае Яўгені Лукоўскі. — Моладзь патрабуе закончыць сёлета будаўніцтва стадыёна, пабудаваць водную станцыю, а таксама разбіць кветнікі і скверы пры ўсіх заводах, фабрыках, арцелях. Раз моладзь патрабуе — трэба зрабіць. Штаб



разлічвай, што водную станцыю на Беразіне мы пабудуем да адкрыцця купальнага сезона. Для гэтага трэба будзе, каб кожны дзень працавала 300—400 чалавек. У комсамольскіх арганізацыях пытанне абмеркавана. Па звестках, якія да нас прыходзяць, на будаўніцтва станцыі будзе выходзіць значна больш моладзі. Стадыён таксама будзе пабудаваны. На ім мы збіраемся правесці маладзёжны фестываль».

Вось так нараджаюцца вялікія справы. А хіба іх не можна рабіць у кожным горадзе? Можна. Трэба толькі любіць свой горад.

## Збірайце вусную народную творчасць

У нашай краіне даўно атрымала ўсеагульнае прызнанне тая вялікая думка, што народ з'яўляецца стваральнікам як матэрыяльных, так і духоўных каштоўнасцей. Народ — найвялікшы філосаф, самы мудры вучоны, геніяльны паэт, самы таленавіты мастак і музыкант. Ён заўсёды быў і застаецца адзіна справядлівым суддзёй. Ён захоўвае ў сваёй памяці галоўнае, забывае другараднае, высмейвае дрэннае.

«Сапраўдную гісторыю народа, — гаварыў А. М. Горкі, — нельга ведаць, не ведаючы вуснай народнай творчасці».

Гэта асабліва датычыць вуснай паэтычнай творчасці совецкага народа, самага перадавога, самага ідэйнага, рэволюцыйнага народа ў свеце.

Вучоныя гісторыкі, фалькларысты, літаратуразнаўцы даўно і горача спрачаюцца аб тым, што варта адносіць да народнай творчасці, хоць даўно вядома, што ўсялякая спроба даць навуковае вызначэнне чаму-небудзь без уліку жывой практыкі заўсёды прыводзіла да схаластыкі, начотніцтва і дагматызма. Для таго, каб вырашыць гэтыя навуковыя пытанні, трэба спачатку сабраць і надрукаваць як мага больш сучасных совецкіх народных песень, пагаворак, прымавак, частушак, казак і іншых форм мастацкай творчасці працоўных мас, у якіх выражаецца народная мудрасць і якімі народ адказвае на ўсе важнейшыя падзеі жыцця.

Вялікае поле дзейнасці для нашай моладзі! Хто як не моладзь можа прыкласці да гэтай патрэбнай і высокароднай справы і нястомную энергію, і малады задор, і веды, набытыя ў школе, у тэхнікуме, у ВНУ.

Збірайце вусную народную творчасць!

**Прафесар І. В. ГУТАРАЎ.**

# ШЫРОКІ СВЕТ

Жыхары горада Саратава сабраліся на ўрачыстае адкрыццё помніка свайму славутаму земляку, вялікаму рускаму рэвалюцыйнаму дэмакрату Н. Г. Чэрнышэўскаму. Адзін за другім са словамі прывітання выступалі рабочыя, калгаснікі з навакольных вёсак, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Вось на трыбуну падняўся невысокі чарнявы юнак з ветлівай усмешкай на твары. Ён трымаў сябе ўпэўнена, гаварыў шчыра, пранікнёна. І толькі тыя, хто стаяў у першых радах, заўважылі, што юнак сляпы. У прэзідыуме была маці Зоі Касмадзем'янскай. Яна праціснулася да юнака і спытала, хто ён.

Юнак назваў сябе Міколам Храбрым — выхаванцам Саратаўскай спецыяльнай школы для сляпых. Пачуўшы прозвішча Міколы, маці Зоі горача паціснула яму руку і сказала:

— Заўсёды будзь храбрым, мой хлопчык.

Праз некалькі дзён Мікола ехаў у Мінск: ён збіраўся паступіць на першы курс філасофскага аддзялення Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.

Калі ў пакой прыймовай камісіі універсітэта ўвайшоў сляпы юнак, прысутныя там крыху разгубіліся. Адзін з іх узяў дакументы Міколы і пачаў іх перагортваць.

— Як-жа вы будзеце вучыцца? — запытаў ён. — Трэба-ж вельмі шмат чытаць, пісаць...

— У мяне ёсць жаданне быць карысным Радзіме, народу, і гэта я лічу самым галоўным, — ціха адказаў юнак. — Ёсць у мяне галава, памяць... вучыцца можна...

Члены камісіі пераглянуліся. Па руках пайшоў міколаў атэстат. У ім значылася, што юнак закончыў сярэднюю школу са срэбным медалем.

Першыя дні вучобы прынеслі Міколу шмат радасці, але ён разгубіўся: абставіны, у якія ён трапіў, былі зусім нязвыклыя для яго. Спачатку ён вучыўся ў Гродзенскай рэспубліканскай сямігадовай школе сляпых, потым у Саратаўскай сярэдняй школе. Там былі спецыялісты-выкладчыкі для сляпых, выхавацелі, спецыяльныя падручнікі. А тут — зусім іншае. І ён адзін такі на курсе.

Нельга сказаць, каб аднакурснікі не прынялі яго ў сваю сям'ю. Наадварот, яму вельмі спачувалі ўсе. Але якраз гэтае спачуванне і крыўдзіла юнака. Ён хацеў быць роўным сярод роўных. Рабілася неяк цяжка на душы. Можа, сябры не вераць, што ён зможа вучыцца? А можа, ён памыляецца ў сваіх здольнасцях? Самае галоўнае — нельга чытаць. А чытаць трэба многа. Універсітэт — не сярэдняя школа.

Адным з першых зразумеў яго душэўны стан студэнт Рыгор Аўраменка.

— Давай, Мікола, будзем сябраваць, — сказаў ён. — Будзем разам да лекцый рыхтавацца, чытаць.

Хутка на курсе адбыўся камсамольскі сход. Абмяркоўвалі пытанне, як найлепш наладзіць вучобу, стварыць таварыскі, дружны калектыў. Слова папрасіў студэнт Захар Зімак, з якім Мікола не быў яшчэ асабіста знаёмы.

— Мы павінны ганарыцца тым, што сярод нас вучыцца Мікола Храбры, — сказаў ён. — Ён найлепшы наш сябра, таварыш...

Зімака дружна падтрымалі.

Яшчэ ў школе Мікола адчуваў недасканаласць кніг, надрукаваных шрыфтам Брайля. Таму ён увесь час настойліва трэніраваў сваю памяць. І гэта дало свае вынікі. Мікола трымаў у памяці складаныя матэматычныя формулы, з аднаго разу засвойваў праслуханы матэрыял.

Метад запамінання вельмі спатрэбіўся тут, ва універсітэце. Юнак як мага хутчэй хацеў праверыць свае сілы на практыцы. І вось, нарэшце, — першыя семінарскія заняткі па асновах марксізма-ленінізма. Мікола падрыхтаваўся да выступлення на тэму «Маніфест Камуністычнай партыі». Дапамагаў яму Грыша Аўраменка. Адказ яго быў глыбокі, грунтоўны.

— Колькі разоў вы чыталі матэрыял — пацікавіўся выкладчык.

— Адзін раз, — нясмела прамовіў студэнт.

На твары выкладчыка адбілася здзіўленне, але ён нічога не сказаў.

Юнак ва ўсім адчуваў, што побач з ім — сябры. Ідучы дамоў, ён упэўнена крочыў па тратуары, бо поруч ішлі і Лёня Ляўчук, і Грыша Аўраменка, і Валя Румянцава. У інтэрнаце ён таксама амаль не заставаўся адзін.

Ён так зжыўся з дружным калектывам курса, што зусім не адчуваў сябе адзінокім. І вось аднойчы ва універсітэцкім клубе быў вечар: ці то лекцыя, ці проста канцэрт — Мікола гэтага добра не памятае. Але пакуль ён збіраўся туды, у пакоі ўжо нікога не было. Не было аднакурснікаў і ў іншых пакоях.

— Значыць, забылі, — сказаў уголас Мікола і ў засмучэнні, не распранаючыся, лёг на ложак.

Юнаку зрабілася да болю крыўдна. Потым ён стаў разважаць спакайней: «Ну што-ж, забылі, спяшаліся... Нічога асаблівага. Бывае і так».

Першы ў пакой прыбег Лёня Ляўчук. Мікола спаў у адзенні. Лёня адразу здагадаўся, чаму гэта так. Зрабілася няёмка, сорамна.

Гэты выпадак аднакурснікі не забылі, сталі яшчэ больш уважліва адносіцца да свайго новага сябра. З Міколам дружыў увесь курс. У сваю чаргу Мікола не раз прыходзіў на дапамогу сваім сябрам. Яго добрая памяць, якая дазваляла яму не заглядваць у энцыклапедыю, у дапаможнікі, заўсёды выратоўвала ў патрэбныя хвіліны. На першым курсе ён дапамагаў Васілю Зарэцкаму па матэматыцы: дыктаваў матэматычныя формулы і настойліва тлумачыў, пакуль не пераконваўся, што той зразумеў.

Мікола — адмысловы баяніст. Роўнага яму ў гэтым ва універсітэце не знойдзеш. Яшчэ на першым факультэцкім вечары мастацкай самадзейнасці ён выканаў «Танец лебедзяў» з вядомага балету Чайкоўскага «Лебядзінае возера». Апладысментам не было канца. З таго часу Мікола заўсёды выступае на факультэцкіх, універсітэцкіх і міжвузаўскіх аглядах мастацкай самадзейнасці.

Здавалася, асноўныя цяжкасці пераадолены: ён уцягнуўся ў студэнцкае жыццё, у яго заліковай кніжцы былі толькі выдатныя адзнакі.

Летам паехаў да бацькоў у Оршу. Ад універсітэцкіх сяброў атрымліваў цёплыя лісты. Неяк атрымаў ліст ад Грышы Аўраменкі. Калі меншая сястрычка пачала чытаць і Мікола даведаўся, што рашэннем міністэрства закрыта філасофскае аддзяленне універсітэта, твар яго раптам збляў. «Няўжо прыдзецца пераходзіць на гістарычны факультэт?!» Юнак доўга сядзеў нерухома на лаўцы. Ён так палюбіў сваё аддзяленне, так многа мар звязваў з ім... І раптам трэба ўсё змяняць, здаваць многа новых прадметаў...

Прайшоў час. Дзякуючы вялікай сіле волі і дапамозе сяброў ён і на гэты раз перамог цяжкасці.

— Ты, брат Мікола, упэўнена крочыш у жыцці, — сказаў яму аднойчы Грыша Аўраменка. — Цябе цяжкасцямі не спалохаеш...

І сапраўды, цяжкасці ніколі не палохалі Міколу Храбрага.

Вось Мікола прапануе Юрку Смальянаву або Лёню Ляўчуку згуляць з ім партыю ў шахматы. Шахматная дошка крыху незвычайная: чорныя клеткі прыпадняты вышэй. Мікола гуляе з азартам і часта выходзіць пераможцам. Нездарма ён атрымаў разрад на рэспубліканскім шахматным турніры сярод сляпых. Часта сябры садзяцца гуляць у даміно. Мікола не адстае і тут. Трапяткія, рухавыя пальцы яго хутка і беспамылкова чытаюць даміно. Гульня, як і трэба, вядзецца з азартам, з юнацкім запалам.

Чым больш зблізкаешся з Міколам, тым больш пераконваешся, што юнак ні ў чым не адстае ад сваіх сяброў, ідзе ў нагу з усёй студэнцкай моладдзю.

Памятае Мікола, як некалі ён ехаў у Мінск на вучобу. У вагоне да яго падсеў інвалід, ад якога моцна пахла гарэлкай. Даведаўшыся, што Мікола едзе вучыцца, інвалід абыякава махнуў рукой:

— Нашто табе тая навука? Гэта-ж так цяжка будзе. Думаеш, так не пражывеш? Народ у нас добры, спагадлівы... Пракорміць...

— А сваю годнасць чалавечую вы не паважаеце, дзядзька?! — абурыўся хлопец.

Мікола не раз перачытваў раман Нікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь», захапляючыся мужнасцю свайго любімага героя. Гэты вобраз натхняе юнака ў яго высакародным імкненні авалодаць вяршынямі навукі. Ён цвёрда ўпэўнены, што зможа аказацца карысным для Радзімы. Яго не палохае будучыня. Ён добра ведае, што ніхто не саб'е яго з намечанага шляху. Шлях гэты — настойлівая вучоба дзеля таго, каб пазней аддаць усе сілы вялікаму служэнню Радзіме.

**Ул. ХМЯЛЬНІЦКІ,**

**студэнт аддзялення журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**



**Мікола Храбры** (крайні справа) **і аднакурснікі Мікола Буслаў і Рыгор Аўраменка за падрыхтоўкай да лекцый.**

Фото С. Чырэшкіна.



# У СУБОТНІ ВЕЧАР

Гэтае фото зроблена ў суботні вечар у сям'і старшага майстра зборачнага цэха мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава Барыса Аляксандравіча Маляўкі.

Пасля рашэння XX з'езда КПСС і Указа Вярхоўнага Совета СССР аб скарочаным рабочым часе ў суботнія і передсвяточныя дні ў гэтай сям'і, як і ва ўсіх сем'ях, адбыліся свае перамены.

— Пастанова партыі і ўрада аб скарочаным рабочым дні дае магчымасць не толькі лепш арганізаваць адпачынак, але і працу, і выкананне грамадскіх даручэнняў. У нас яшчэ нярэдка можна сустрэць чалавека, на якога «ўскладзена» безліч нагрузак: ён член і цэхавага камітэта, і заводскага, і дэлегат канферэнцый, і інш. Такога «нагружанага» тату рэдка ўбачыш дома, з дзецьмі.

— А цяпер наш тата больш часу бывае дома, — гаворыць жонка Барыса Аляксандравіча Марыя Уладзіміраўна.

— І часцей правярае мае сшыткі, — дадае дачка Святлана.

Рашэнне, якое на першы погляд датычыцца толькі суботняга часу, на самай справе ўносіць у наша жыццё многа новага. Яно па-новаму арганізоўвае працу, грамадскую работу, умацоўвае наш быт.

Па суботах у сям'і Маляўкі асабліва ажыўлена. У тры гадзіны Барыс Аляксандравіч ужо дома. Старэйшая дачка, першакласніца Святлана, ужо заканчвае рыхтаваць хатнія заданні. Неўзабаве Марыя Уладзіміраўна прыводзіць з дзіцячага саду Таню. А маленькая Алачка любіць гуляць з сёстрамі.

— Суботнія вечары сталі даўжэйшыя куды больш, чым на дзве гадзіны! — гаворыць Барыс Аляксандравіч. — Дзякуй партыі яшчэ за адно мудрае рашэнне.

Тэкст і фота А. Дзітлава.

## МЕТЭАРЫТЫ Ў БЕЛАРУСІ

У геалагічным музеі Акадэміі навук БССР захоўваюцца два метэарыты — «Брагін» і «Грэск». Гэта не адзіныя рэшткі метэарытных рэчываў, якія ўпалі на зямлю і знойдзены ў Беларусі.

Метэарыт «Брагін», знойдзены непадалёку ад гарадскога пасёлка Брагін на Палессі, упершыню стаў вядомы яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя. За 150 год знойдзена 8 экземпляраў гэтага жалеза-каменнага метэарыта. Агульная вага ўсіх гэтых экземпляраў складае 714 кілаграмаў. Нажаль, месцазнаходжанне асноўнай масы метэарыта невядома. Апошняя, восьмая па ліку знаходка (1952 г.) вагою больш чым 70 кілаграмаў захоўваецца зараз у Мінску.

У гады вайны два індывідуальныя экземпляры «Брагіна» з Мінска і тры з Кіева былі вывезены фашысцкімі акупантамі, і з таго часу сляды іх згубіліся. Метэарыт «Брагін» ужо даўно прыцягнуў увагу навуковай грамадскасці, і апісанне яго можна знайсці ў многіх совецкіх і замежных навуковых выданнях.

У мінулым стагоддзі непадалёку ад Пінска быў знойдзены і другі беларускі каменны метэарыт — «Жмені», вага якога ўсяго 246 грамаў. Асноўная маса яго захоўваецца ў сталіцы Аўстрыі — Вене. Беларускі каменны метэарыт «Забродддзе» (вага 3 кілаграмы) таксама адносіцца да ліку знаходак мінулага стагоддзя.

Метэарыты па свайму складу падзяляюцца на тры групы: жалезныя, каменныя і жалеза-каменныя.

Вясною 1955 года дырэктар адной з МТС Грэскага раёна пазваніў па тэлефону ў Акадэмію навук БССР і паведаміў аб цікавай знаходцы жалезнай глыбы на калгасным полі паблізу вёскі Пукава. Прадстаўнікі Акадэміі выехалі на месца, і хутка жалезная глыба, вагою ў 303 кілаграмы, была дастаўлена ў Мінск. Тут над ёю былі праведзены розныя даследаванні. Хімічкі шляхам аналізу ўстанавілі, што яна складаецца з жалеза. У фізіка-тэхнічным інстытуце правялі паліроўку гэтай глыбы і траўленне кіслатой. Даследаванне дапамагло выявіць сістэму тонкіх ліній, так званых Нейманавых. Гэтыя лініі з'яўляюцца бясспрэчным доказам таго, што жалезная глыба, знойдзеная паблізу вёскі Пукава, — метэарыт. Новы метэарыт атрымаў назву «Грэск». Трактарыст і калгаснікі, якія знайшлі яго, узнагароджаны грашовай прэміяй. Метэарыт «Грэск» унесены ў спіс найбольш каштоўных знаходак. Узор яго хутка будзе пасланы ў Маскву ва Усесаюзны камітэт па метэарытах пры Акадэміі навук СССР.

Пасля вайны пры Акадэміі навук БССР у складзе інстытута геалагічных навук створана камісія па метэарытах. Узначальвае яе кандыдат тэхнічных навук С. І. Рынг. Старшыня камісіі расказвае:

— Асноўная наша задача — збор звестак аб палётах балідаў (светавыя і гукавыя з'явы, якія суправаджаюць метэарытныя целы), аб падзенні метэарытаў у апошні час, а таксама аб метэарытах, якія ўпалі даўно, і арганізацыя навуковага даследавання рэшткаў метэарытных целаў, якія ўпалі ў Беларусі.

Беларускія метэарыты дастаўляюцца ў геалагічны музей Акадэміі навук БССР. У сярэднім за год знаходзяць 3—4 метэарыты, прычым «каменны дождж» лічыцца за адзін метэарыт.

**Е. САДОЎСКІ.**

## З ГІСТОРЫІ ШАХМАТАЎ У РАСІІ

Гэта было сто гадоў таму назад, у 1855 годзе. Адна з новых грамадскіх устаноў Пецярбурга наладзіла ўрачыстае віншаванне героя абароны Севастопаля, выдатнага рускага інжынера-будаўніка севастопальскіх абарончых збудаванняў Э. І. Тотлебена. Гэтай новай грамадскай установай быў першы рускі шахматны клуб, у ліку арганізатараў якога былі буйнейшы тэарэтык шахматнай ігры К. А. Яніш, мацнейшы майстар шахматнай атакі І. С. Шумаў і іншыя.

У 1853 годзе газета «Пецербургскія ведамасці» змясціла паведамленне аб тым, што ў сталіцы Расіі створана «Таварыства аматараў шахматнай ігры». Нават карэспандэнты замежных часопісаў адзначалі, што «таварыства» мае ў сваім складзе «некалькі выдатных ігракоў». Тады-ж, у 1853 годзе, «Таварыства аматараў шахматнай ігры» вырашыла стварыць свой клуб — першы шахматны клуб у Расіі.

Наведваць клуб меў права кожны, хто цікавіўся шахматамі. Сярод аматараў шахматнай ігры быў цвет рускай інтэлігенцыі. Заўважым, што з ліку пісьменнікаў у клубе часта можна было ўбачыць Л. Н. Талстога, І. С. Тургенева, паэта Я. П. Палонскага, літаратара І. І. Панаева.

Шахматным клубам быў праведзены адзін з першых шахматных турніраў у нашай краіне. Спаборніцтвы праводзіліся па алімпійскай сістэме (з выбыццём прайграўшага). Усяго ўдзельнічала 16 чалавек. У другім туры ўдзельнічала толькі восем пераможцаў першага тура. У трэцім туры ўдзельнічала чатыры шахматысты, а ў чацвёртым два, якія да гэтага часу ішлі без паражэнняў. Увесь турнір без паражэнняў правёў С. С. Урусаў. Другі прыз быў уручаны І. С. Шумаву, выдатнаму шахматысту таго часу.

Адзначаючы творчыя поспехі шахматыстаў — членаў першага шахматнага клуба, рускі друк указваў, што ігра ў шахматы «з кожным днём набывае ўсё большую і большую папулярнасць». Трэба дадаць, што шахматная ігра была папулярнаю яшчэ ў старажытныя часы. Шахматныя фігуры былі знойдзены ў 1954 годзе ў часе раскопак у Навагрудку. Шахматы знойдзены ў слаі XI стагоддзя.

**М. МЕЛЬНІКАЎ.**

## КАБ СЕСЦІ ЗА РУЛЬ...

**У Заслаўскай сярэдняй школе № 1 многа вучняў, якія любяць тэхніку. Яшчэ з пачатковых класаў Алесь Шалькевіч і Валянцін Аўраменка заўзята майструюць, робяць мадэлі, займаюцца радыёканструяваннем. Зараз вучні X класа вырашылі вывучыць аўтамабіль. У іх знайшлося шмат аднадумцаў. Амаль усе дзесяцікласнікі ахвотна запісаліся ў гурткі па вывучэнню аўтамабіля і трактара.**

**У школе абсталяван асобны клас-майстэрня, дзе ёсць матор, патрэбныя схемы і іншыя дапаможнікі. Занятк і з аматарамі аўтамабільнай і трактарнай справы праводзяць настаўнікі школы і работнікі мясцовай МТС.**

**Дарэчы сказаць, Заслаўская МТС праяўляе клопаты аб будучай змене. Механізатары перадалі школе трактар «Універсал», легкавы аўтамабіль «ГАЗ-67», шмат інструменту для школьнай майстэрні.**

**Вучні на сядзібе МТС — частыя госці. Тут яны маюць магчымасць навучацца кіраваць аўтамабілем і трактарам, азнаёміцца з сельскагаспадарчай тэхнікай, з асновамі вытворчасці.**

**Разам з атэстатам сталасці сёлета многія дзесяцікласнікі з Заслаўскай школы атрымаюць пасведчанне на права ваджэння аўтамабіля і трактара.**

**Ул. ЗАХАРЭВІЧ.**

Дзесяцікласнікі Заслаўскай школы № 1 з выкладчыкам І. С. Барадзіным на занятках па вывучэнню аўтамабіля.

Фота І. Замыцкага.



# Няўдаліца





Мал. С. Раманава.

Не, Тамары Верас у жыцці-такі не шанцуе. У яе, праўда, вельмі добрая мама, такая добрая, што лепшую наўрад ці знойдзеш. Без яе клопатаў Томачцы тугавата давялося-б. Ёсць у Томы і тата. Але што тата! Яна яго амаль не бачыць. Ён заўсёды недзе нечым заняты, ніколі яго няма дома. Адным словам, у адносінах да дачкі тата захоўвае поўны нейтралітэт, ва ўсім спадзеючыся на маму.

Але, нягледзячы на маміны старанні, Тамары ўсё-ж не шанцуе. Узяць хоць-бы сённяшні дзень. Спачатку ўсё ішло нібыта і не блага, хоць мама крыху і затрымалася, пакуль адпрасавала яе сукенку. Аднак, танцы ёй выключна спадабаліся.

Вы не бачылі, як танцуе Тамара Верас? О, гэта варта паглядзець! Наўрад ці хто іншы ў Зарэччы можа гэтак танцаваць! У гэты час ёй нават самой здаецца, што ўвесь свет у нямым захапленні любуецца ёю. А яна, крышку нахіліўшы галоўку — пышны залацісты стажок кудзерак — танцуе, танцуе, не заўважаючы нават сваіх партнёраў, апрача, хіба, аднаго Колі Патапчука, калгаснага агранома. Гэтак было і сёння.

Але калі Тамара прышла пасля чарговага танца на сваё месца, дзе ляжаў яе радыкюльчык, яна ўбачыла незвычайнае: у радыкюльчыку не было пальчатак... Так, так, тых самых дарагіх пальчатак, якія купіла ёй мама і з якімі яна ніколі не разлучаецца. Поплеч сядзелі Нюра і Мая — дзяўчаты з кравецкай арцелі «Аб'еднаная праца». Бясспрэчна, пальчаткі ўкралі яны і ніхто іншы. Але дайце рады — яны яшчэ апраўдваюцца? Нейкія краўчыхі раяць быць больш разважлівай! Нахабства якое!

Прыкусіўшы тоненькую губку і забыўшыся на танцы, Тома пайшла дадому. Дома, праўда, здарыўся невялікі канфуз: пальчаткі ляжалі ў шафе. Тамара, спяшаючыся на танцы, забылася на іх. Аднак, канфуз хутка прайшоў. Любая, добрая мама! Яна выручыла і на гэты раз. Яна проста сказала, што каб пальчаткі былі ў радыкюльчыку, дык напэўна Нюрка з Майкай укралі-б іх. Такіх-жа пальчатак ні ў кога ў Зарэччы няма. А што нейкія там дзве краўчыхі груба гаварылі з Томачкай, дык гэта не варта ўвагі. Хіба могуць яны зраўняцца з Тамарай хоць-бы па адукацыі, якая, што ні кажыце, вучылася ў дзевятым класе.

Дарэчы, з вучобай таксама не пашанцавала. Яна вымушана была ў леташнім годзе пакінуць школу таму, што прынцыпова не спадабалася выкладчыку матэматыкі Мітрафану Іванавічу, які заўсёды ставіў ёй адны двойкі. Другі год у дзевятым класе — і толькі двойкі. Аднак і тут выручыла мама. Яна не магла дазволіць, каб яе роднае дзіця цярпела несправядлівасць. Яна гэтак і сказала:

— Каб добра жыць, не абавязкова, дачушка, добра вучыцца. Можна, напрыклад, удала выйсці замуж. Ды ў такога настаўніка, як Мітрафан Іванавіч, не вельмі-то чаму навучышся.

І маці з філасофскім выглядам дадала:

— Даўно вядома, што чым менш ведае настаўнік, тым больш ён чэпіцца да вучняў.

З тае пары і жыве Тамара думкаю аб тым, што яна добра выйдзе замуж. А гэта-ж справа нялёгкая: трэба мець завіўку, добрыя сукенкі, гадзіннік і нават пальчаткі.

У Тамары ўсё гэта было.

І вось Тамара пачала заўважаць і адчуваць асабліва прыхільны позірк Колі-агранома. І хоць ёй не вельмі падабалася, што ён цэлыя дні пэцкаецца з торфам і гноем, шукае нейкіх ільняных блох, мама ўсё-ж параіла:

— Дурніца ты, дачушка, хлеб ды грошы ягоныя гноем пахнуць не будуць. А ён-жа чалавек адукаваны: нейкую кажуць, акадэмію скончыў.

І як можна было не згадзіцца з мамай?

Коля пачаў часта бываць у іх дома, і мама гэтаму была вельмі рада. Колю яна добра частавала, часам нават віном. Аднаго разу мама заўважыла, што ў яго на пінжаку не было аднаго гузіка. Мама амаль сілком сцягнула з сарамлівага Колі пінжак.

— Томачка гэта хуценька зробіць, за адзін момант. Яна ў нас малайчына,— і маці разам з дачкой выйшлі ў другі пакой.

Праз дзве хвіліны Коля надзеў свой пінжак, на якім выразна віднеўся новы гузік, прышыты якраз на тым месцы дзе яго нехапала.

Усё, здавалася, ішло добра. Але вось што здарылася далей. Аднаго разу ў выхадны дзень маці знарок пакінула дома адну Тамару: сёння яны з Колем павінны дамовіцца аб многім. Коля чамусьці пазніўся. Нарэшце, рыпнула брамка двара, і загарэлы, вясёлы хлопец убег у дом.

— Томачка прабач! Затрымаўся ў брыгадзе— канчалі сеяць. Ды вось бяда — саскокваў з машыны, зачапіўся за цвік — і вось!— паказаў на правы рукаў сарочкі, на якім віднелася невялічкая, на два пальцы дзюрачка.— Ты ўжо, Томачка, па-сяброўску... Ды пойдзем у парк на танцы,— і ён рашуча пайшоў за перагародку і адтуль праз хвіліну працягнуў сарочку.

Што магла зрабіць небарака Тома? Бегчы шукаць маму? А дзе яна? Паклікаць суседку— сорам, ганьба! Тома дастала скрынку з ніткамі.

Прайшло дваццаць, трыццаць хвілін. Коля перагартаў усю падшыўку часопіса мод (гэта быў адзіны друкаваны сродак, праз які томіна маці падтрымлівала сувязь з навакольным светам), а Томы ўсё няма. Калі цярплівасці ўжо больш не было, Коля высунуў галаву з-за перагародкі і... не даў веры сваім вачам. Ля акна, закрыўшы рукамі вочы, захліпалася ад плачу Тома. На каленях у яе ляжала скамечаная сарочка. Падыйшоўшы бліжэй, ён убачыў дзюрку на рукаве, зацыраваную рэдкай павуцінкай чорных нітак, зламаную іголку. Коля ўсё зразумеў.

А праз колькі дзён Тамара напісала заяву і аднесла яе ў арцель «Аб'еднаная праца». І вось ужо з тыдзень як яна наведвае курсы кройкі і шыцця. Людзі, якія блізка ведаюць Тамару, кажуць, што ёй, нарэшце, у жыцці пашанцуе.

**В. НАВІЦКІ,**
**сакратар Дзяржынскага**
**райкома ЛКСМБ.**

# Дарэчы, аб афіцыяльнасці...

**Н. ГЭГА**

Здавалася-б, што як што, але афіцыяльнасць, мабыць, апошняя з хвароб, на якую можа захварэць ЗМП[1], будучы арганізацыяй маладзёжнай.

Аднак, не дасць утаіць вялікі лекар — другі з'езд, які паказаў нам без усялякіх закідаў, што мы яшчэ бываем напышлівыя, ганарлівыя — уласна кажучы, афіцыяльныя.

Да гэтага часу аб нашай афіцыяльнасці гаварылася толькі ў вялікіх маштабах. Гэтыя вялікія маштабы маюць тую асаблівасць, што

1 Звёнзэк Млодзежы Польскай — Саюз Польскай моладзі.

праз іх цяжка разгледзець афіцыяльнасць у яе канкрэтных праявах. Можа, варта-б паглядзець на яе зблізку, у яе простых формах?

Быў я нядаўна на пасяджэнні зэтэмпоўскага камітэта на адным вялікім заводзе. Сакратар камітэта прабірае сваіх таварышаў, якія нешта там «правалілі», і звяртаецца да іх на «вы»: «Вы, таварыш ІКС», «Вы, таварыш ЗЭТ». Яны яго таксама інакш не называюць, як «таварыш сакратар». Міны суровыя. Ніхто, барані божа, не ўсміхнецца, не пажартуе.

Праз чатыры гадзіны пасяджэнне закончылася. Сакратар пацягваецца, усміхаецца і звяртацца да нядаўняга «таварыша ІКС».

— Вацік, пазвані Лене, пойдзем абедаць. Паставіш піва?

А то канферэнцыя — ні больш ні менш, як толькі раённая. Настрой нейкі «не зусім»... Вялікая зала дрэнна радыёфікавана. Некаторых выступаючых,— а кожны, як гэта вядзецца, гаворыць ледзь чутно. Прэзідыум сядзіць за сталом, густа застаўленым кветкамі,— праз іх толькі лысіны відаць здалёку. Старшыня — нейкая «зламаная жыццём» жанчына, яе і зусім не чуваць. Групка актывістаў з дальняга канца залы з абурэннем пасылае ў прэзідыум запіску:

«Таварышы з прэзідыума! Дэлегаты лічаць, што канферэнцыя праходзіць вяла. Можа-б трохі весялей! А галоўнае — гучней!»

У прэзідыуме заварушыліся. Лысіны заківаліся то ўлева, то ўправа. Устае старшыня. Абураная.

— Таварышы! У прэзідыум паступіла прапанова (чытае запіску). У сувязі з прапановай прэзідыум лічыць: па-першае, дэлегаты павінны спыніць шум, тады лепей будзе чуваць прамоўцаў. Што-ж датычыцца таго, каб весялей, то трэба не забываць, што канферэнцыя не мае на мэце апавядання анекдотаў. А ўвогуле, таварышы, тут гаворыцца аб балячках моладзі! Таму няма чаго смяяцца!

Скардзілася мне нядаўна на маладзёжную афіцыяльнасць адна з нашых кіруючых дзеячак.

Паехала яна раз на мясцовую канферэнцыю. Сустрэлі яе—а як-жа!—цёпла. Запрасілі ў прэзідыум. Наогул, акружылі ўвагай, як і належыць госцю «зверху», цікавіліся: «Якая ваша думка аб тым», «Як ваша думка аб гэтым?», «Як вам падабаецца тое?», «Як падабаецца гэта?» А ўрэшце, ведаеце самі, як звычайна ставецца на месцах да такіх гасцей, а тым больш на канферэнцыі. Праседзела кабета ўвесь дзень за сталом прэзідыума, а што было далей, яна расказала:

«... І, уявіце сабе, канферэнцыя закончылася. Пасля канферэнцыі ўсе збіраліся пайсці павячэраць, а потым — у тэатр.

Дэлегаты разыходзяцца. Гоман, шум, як звычайна ў такіх выпадках. Кожны некуды звоніць: той дагаварваецца з жонкай, гэты яшчэ з кім. А са мною, разумееце, ім неяк няёмка. Выйшлі на вуліцу. Цёмна. Дождж. Пытаюцца, ці маю дзе пераначаваць. Адказваю, што неяк-жа дам сабе рады: можа ў выканком пайду, а можа ў гасцініцы як-небудзь месца атрымаю. Вельмі ўзрадаваліся. У такім разе, кажуць, выдатна! Вось вам білет у тэатр, а вось талон на вячэру. Тэатр знаходзіцца на такой-та вуліцы, сталовая — там і там. І да пабачэння. Умомант, — уявіце, — умомант развіталіся, і я засталася адна. Адна, вечарам, у незнаёмым горадзе! Мяне затрэсла, як у ліхаманцы. Хоць-бы каторы дадому запрасіў, або хоць у сталовую пайшоў разам! Я-ж усё-такі чалавек! А гэтыя сунулі ў адну руку білет, у другую — талон, і рабі сабе, сястра, што хочаш... Відавочна, — уздыхнула гэтая кіруючая кабета, — нешта ёсць у гэтай нашай маладзёжнай арганізацыі нядобрае».

У гэтай гісторыі самым забаўным для мяне было тое, што гэтая ўздыхаючая наконт афіцыяльнасці адносін дзеячка за два гады работы ў вялікім калектыве кіраўнікоў сама ні разу не была ні ў кога дома, ні з кім не пасябравала, а на «ты» была толькі са сваімі намеснікамі.

Усё гэта было-б забаўным, каб не было вельмі сумным.

**Пераклад з польскай мовы.**





# Байкі В. Маеўскага

Малады байкапісец Васіль Маеўскі нарадзіўся ў вёсцы Хізаў Кармянскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У часе Вялікай Айчыннай вайны ён знаходзіўся ў партызанскім атрадзе. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Маеўскі працаваў спачатку ў рэдакцыі Кармянскай раённай газеты, а пазней на камсамольскай рабоце.

Цяпер В. Маеўскі працуе ў рэдакцыі газеты «Сталинская молодежь».

З 1948 года байкі В. Маеўскага друкуюцца на старонках «Чырвонай змены», «Вожыка».

Ніжэй мы змяшчаем новыя творы маладога пісьменніка.

## *Бот і галёш*

За дзень натупаўшыся па дарозе,
Галёш і Бот, як з братам брат,
Зайшлі ў адну з вясковых хат.
Паставілі іх нанач у парозе,
Адзін каля другога ў рад.
Здавалася-б, што болей трэба:
Начуй, адпачывай!..
Дык не, Галёшам Бот пагрэбаў;
Узняў ён лямант, хоць ты з хаты уцякай.
— Мне сорамна стаяць з табою, —
Задзёр ён нос наглянцаваны свой, —
Ты ўвесь аблеплены гразёю,
Смярдзіш гумою,
Далей адсунься, за парогам стой...
Падаўшы гэткую параду,
Бот да Галёша павярнуўся задам
І доўга супакоіцца не мог:
Бурчэў і лаяўся і ныў...
Няўдзячны, надта скора ён забыў
Таго, хто ад гразі яго зберог.



Мядзведзь на гэта не павёў і вухам:
Вавёрку прадаўжаў вазіць на злёты,
На розныя нарады,
І толькі потым,
Калі ўдарылі, як трэба, халады,
У «Пабедзе» прыкаціў яе дахаты.
У хаце вецер, ніякой яды:
Заплакала Вавёрка
Горка.
А жыхарам лясным пацеха:
— Вучыла нас нявеpaма чаму, —
Збіраць арэхі,
А як сама сустрэла ты зіму?!.
Аддзякуй вось Таптыгіну свайму.



## *Горкі вопыт*

У Новых Соснах, за узгоркам,
Жыла-б сабе як след Вавёрка,
Каб не спаткаўся неяк з ёй
Адзін кіруючы Мядзведзь вясной.
— Барбара Бацькаўна, віншую! —
Ёй лапу працягнуў пачціва ён
І вестку перадаў такую: —
Адна-адзіная на ўвесь раён
Ты перамогу атрымала:
Зіму — такія халады! —
Перажыла без гора, без бяды...
Відаць, харчоў ты назапасіла нямала?..
Таму, шаноўная, вось з гэтае пары
(Ты можаш ганарыцца)
Усе, як ёсць, лясныя жыхары
Павінны вопыту твайму вучыцца...
— Якая чэсць! — Вавёрка аж расла.
З самім Мядзведзем,
Ад сяла і да сяла,
У яго «Пабедзе»
Едзе
То да Лісоў, то да Янотаў,
То да Ваўкоў, то да Зайцоў...
Нагаварыла столькі ім прамоў
Аб вопыце сваёй работы
Па збору спарышоў-арэхаў.
Што н'ат адзін з яе актыўных слухачоў —
Мацёры Воўк —
Ад злосці з глузду ледзь не з'ехаў.
— Скажы: які у гэтым толк,
Чаму
Запасіць мне арэхі на зіму? —
Калматы сумна ўзвыў...
На гэты раз ваўкову думку Заяц раздзяліў
І кожны, хто прамову слухаў...

## *Баран*

Баран з атараю авец,
Як толькі лету надыйшоў канец,
З папасу на калгасны двор з'явіўся
І не на жарты разгубіўся:
Замест аўчарніка старога
Цяпер узняўся за дарогай
Новы
Будынак, — з выгляду тыповы.
— Туды?!. Я, хоць зарэжце, не пайду! —
Суцішыўшы хаду,
Баран з-пад плота,
Здзівіўшыся, глядзеў на новыя вароты.
— Такая шырыня,
Такая вышыня...
Там холад будзе вечна трэсці...
Чаго сюды нам лезці, —
Пужаў баран ягнят,
Падаўшыся назад.
— Ды што ты, —
Яму ягнё дае адказ. —
Цябе пужаюць новыя вароты?
Старыя-ж — цесныя для нас.
Бываюць-жа на свеце бараны:
Горш смерці, новага пужаюцца яны.



# ДЛЯ адпачынку

## КРАСВОРД

Склаў П. Дунец.



**Па гарызанталі:** 4. Раздзел матэматыкі. 5. Прыбор для арыентавання. 8. Галандскі мораплаўца, які адкрыў рад астравоў Ціхага акіяна. 12. Гайка, пры дапамозе якой электрычны провад прымацоўваецца да меднай пласцінкі. 16. Архітэктурны стыль. 17. Опера Бізэ. 19. Персанаж у камедыі Грыбаедава «Гора ад розуму». 20. Частка кола. 22. Імя дзяўчыны. 24. Грубы гатунак фаянсу. 25. Паэма Маргарыты Алігер. 26. Хімічны элемент. 27. Аповесць М. Лынькова. 28. Паэтычны твор. 29. Мастацкае абагульненне. 30. Англійскі драматург. 31. Прадмет. 32. Адростак дрэва. 33. Вучнёўская сумка. 35. Частка драматычнага твору. 37. Скрыня для апускання бюлетэняў. 38. Герой грэчаскай міфалогіі. 40. Настаўнік красамоўнасці ў школах старажытнай Грэцыі. 42. Орган улады. 44. Прадстаўнікі тунгуса-маньчжурскай групы насельніцтва. 45. Персанаж казкі Пушкіна. 46. Персанаж аповесці Я. Коласа, 49. Дзеючая асоба ў п'есе І. Папова і А. Сцепанава «Порт-Артур». 51. Жарало вулкана. 54. Совецкі паэт.

**Па вертыкалі:** 1. Летуценне. 2. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў пролетарскай партыі ў Францыі ў канцы XIX ст. 3. Крываліенйнае перакрыццё паміж двума апорамі. 6. Эмульсія. 7. Прыток Дона. 8. Тоўстая кніга. 9. Горад у Індыі. 10. Прыстасаванне для спынення або тармажэння руху. 11. Горад у Кітаі. 12. Суквецце. 13. Харчаванне. 14. Драпежная рыба. 15. Герой паэмы Ф. Багушэвіча. 18. Краіна ў Амерыцы. 20. Прыток Камы. 21. Рака ў Еўропе. 22. Французскі вучоны, фізік. 23. Драпежны звер. 32. Востраў Маанзундскага архіпелага. 33. Рускі мастак. 34. Хвароба. 36. Спаборніцтва. 39. Горад у Кітаі. 41. Вугал паміж напрамкам руху і напрамкам на поўнач. 43. П'еса Астроўскага. 47. Насякомае. 48. Месца для малацьбы. 50. Прыстасаванне для выпуску вадкасцей або газаў з рэзервуара. 52. Атмасферная з'ява. 53. Моцны напітак.

### ШАШКІ



**Белыя пачынаюць і робяць нічыю.**
**Белыя:** c3, c5, c7, d2, d4.
**Чорныя:** a3, a5, b8, c7, f4, g3, g5.

### АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ, ЗМЕШЧАНЫЯ У № 3 ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

**ЯКІЯ ГЭТА РЭКІ?**

Волга, Масква, Ока, Волга.

**ДЗЕ БОЛЬШ ВАДЫ?**

У чайніку, дзе пара ідзе з носіка, вады менш.

**ПЯЦЬ ЧАЦВЕРАК**

$$\left(\frac{44-4}{4}\right)^4$$

**ЧАТЫРЫ РОЗНАВАЖКІ**

1, 3, 9, 27 кг.

## Аднойчы...

У час спрэчкі адзін з апанентаў Вальтэра назваў яго шалёным. Вальтэр, усміхаючыся, паглядзеў на праціўніка і сказаў:

— Дарагі прафесар, я лічыў дасюль вас разумным чалавекам. Вы лічыце мяне ідыётам. Што-ж, магчыма, мы абодва памыляліся.

А. Дзюма (бацька) аднойчы паспрачаўся з маладым арыстакратам, які, між іншым, паставіў яму ў віну «нізкае і нячыстае» паходжанне.

— Ну, і што з таго? — адказаў Дзюма. — Правільна, згаджаюся з гэтым. Мой бацька быў мулатам, дзед — неграм, а мой прадзед — малпай. Такім чынам, мой род бярэ пачатак там, дзе ваш канчаецца.

Французскі пісьменнік-філосаф Мантэнь заўважыў аднойчы:

— Напэўна, больш за ўсё справядліва ў свеце размеркаваны розум.

З чаго вы ўзялі? — запыталіся ў яго.

— Зразумела, — адказаў Мантэнь, — ніхто-ж не скардзіцца, што яго нехапае.

## Адкажы без затрымкі

**Як раздзяліць, не разразаючы, 5 яблыкаў паміж пяццю чалавекамі, каб кожны атрымаў па яблыку і адно засталося ў кошыку.**

**Электрапоезд ідзе з захаду на ўсход з хуткасцю 60 км. у гадзіну. Вецер дзьме з поўночнага захаду з хуткасцю 50 км. у гадзіну. У які бок ён адносіць дым поезда?**

## Рост Эзопа

**Эзоп лічыцца творцай байкі. З яго імем звязана многа легенд. Адна з іх заключаецца ў задачы. Вось яна.**

**«Запэўняюць, што Эзопава галава была даўжынёй 7 дзюймаў, а ногі такія доўгія, што раўняліся галаве і палове тулава: тулава-ж раўнялася даўжыні ног з галавой. Які рост гэтага слаўнага чалавека?»**

**Заўвага: Раней дзюйм лічыўся 1/28 аршына.**

---

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ У № 2 ЧАСОПІСА.

**Па гарызанталі:** 1. Смала. 4. Нарты. 6. Сымон. 8. Этыка. 9. Бакал. 13. Траса. 15. Ласка. 17. Талін. 19. Асака. 21. Капал. 23. Баста. 24. Норма. 25. Атака. 28. Папар. 31. Сасна. 35. Ампер. 36. Раман. 37. Рыкша. 38. Алдан. 39. Артэк. 40. Курок. 41. Казан. 43. Акаба. 45. Гапак. 46. Таран. 49. Конус. 51. Асіна. 52. Мусон. 54. Паляк. 55. Лявон. 57. Камар. 58. Набор. 60. Астма. 64. Бірма. 65. Вісла. 66. Сусед. 67. Лапта. 68. Туніс.

**Па вертыкалі:** 2. Мінск. 3. Аўтар. 4. Нукус. 5. Тібет. 7. Маска. 10. Канал. 11. Сілос. 12. Фанза. 14. Акорд. 16. «Астап». 17. Тачка. 18. Абаха. 20. Анчар. 21. Качан. 22. Бабка. 26. Апорт. 27. Аракс. 29. Агава. 30. Рапак. 31. Салат. 32. Нарва. 33. Аркан. 34. Экран. 40. Кушка. 41. Казак. 42. Накал. 44. Афіны. 45. Гонар. 47. Нерон. 48. Мілет. 50. Накат. 53. Сурма. 54. Памір. 56. Нарыс. 59. Атара. 61. Сліва. 62. Молат. 63. Гуслі.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД «ГЕАГРАФІЯ», ЗМЕШЧАНЫ У № 3 ЧАСОПІСА

**Па гарызанталі:** 3. Сіцылія. 6. Беслан. 8. Вайгач. 9. Оха. 14. Ханабад. 15. Палтава. 19. Кіржач. 20. Велінгтон. 21. Енісей. 25. Палех. 28. Драва. 30. Елец. 31. Каратаў. 32. Рона. 33. Кія. 35. Аша. 37. Аніва. 38. Артос. 39. Ніл. 40. Аян. 42. Паці. 44. Сахалін. 47. Алай. 48. Кіраў. 49. Галац. 52. Алазея. 53. Магнітная. 54. Таймыр. 57. Ясельда. 58. Селенга. 61. Сан. 62. Хібіны. 64. Яркенд. 66. Аральск.

**Па вертыкалі:** 1. Ніва. 2. Ніца. 4. Бештау. 5. Мальта. 7. Ном. 8. Ван. 10. Магадан. 11. Балей. 12. Садон. 13. Іванава. 16. Ліпецк. 17. Анапа. 18. Печора. 22. Ленінград. 23. Краноцкая. 24. Уланком. 26. Карабаш. 27. Карагіе. 29. Інгулец. 34. Ілі. 36. Шуя. 39. Нікель. 41. Начжын. 43. Віцебск. 45. Алаід. 46. Хатанга. 50. Пайдэ. 51. Халеб. 55. Слонім. 56. Пекін. 59. Ясы. 60. Іня. 63. Нура. 65. Рось.


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный
и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₈. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7.
Здадзена ў набор Падпісана да друку

АТ 01005. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 235.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**Чэрвеньская дзяржаўная музычная школа арганізавана чатыры гады таму назад. Тут атрымліваюць музычную адукацыю 130 дзяцей. Яны вывучаюць тэорыю і гісторыю музыкі, ігру на рознастайных інструментах.** На здымку: **вучаніцы музычнай школы** (злева направа): **Жана Корань, Люда Парфіяновіч і Лора Шымковіч рыхтуюцца да заняткаў.**

Фото І. Рабіновіча.

